# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА




1920 — 1930

ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ

(14)

# Студэнская Думка

ГРАМАДЗКА-НАВУКОВАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ
БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНСТВА

**„The Students' Thought"**

**Organ of the White—Ruthenian Students**

| АДРАС РЭДАКЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Віленская вул. 8 — 3 | Adress of the Editorial Office: WILNO, Wilenska 8 — 3 |
|---|---|

| № 3 (14) | ЛІСТАПАД — СЬНЕЖАНЬ 1930 г. | Год 6 |
|---|---|---|




* * *

*Я выклікаю з будучыні вобраз Твой,*
*Шукаючы крыніцы съветлай веры,*
*Адпачываю ў ім з разьбітаю душой,*
*У вясну зьмяняю дзень панура-шэры.*

*На цені слаўныя даўно мінулых дзён,*
*На цудны цень срабрыстае Пагоні —*
*Прыйдзі, надходзячая Беларусь, як сон,*
*Зьявіся мне імглой радзімых гоняў.*

*Бо дзіўны вобраз тых, што прыйдуць*
*съветлых дзён,*
*Бо вобраз Бацькаўшчыны маей вольнай*
*Мне сілаў дадае і веру будзіць ён*
*І ў песьнях адбіваецца раздольных.*

*Вільня 1930 г.* *А. Б.*



# 1920—1930.

У дзень 23 лістапада 1930 г. беларускае студэнства Віленскага Унівэрсытэту сьвяткуе вялікі мамэнт у гісторыі свайго разьвіцьця,—гэга 10 лецьце заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў сталіцы Заходняе Беларусі — Вільні.

Гэгы мамэнт мае непамерна вялікае значэньне ня толькі для беларускага студэнства ў Вільні, але і для ўсяе беларускае студэнскае моладзі наагул. Бо якраз Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ёсьць найстарэйшай пасьляваеннай беларускай студэнскай арганізацыяй, ёсьць узнаўленьнем пасьля ваеннага перарыву тых сьветлых радкоў у гісторыі нашага адраджэньня, калі беларуская студэнская моладзь была авангардам у цяжкай і няроўнай барацьбе за адбудаваньне Беларусі.

Беларускі Студэнскі Саюз за час свайго існаваньня, дзякуючы ўмелай і плоднай працы яго сяброў, здалеў шмат чаго ўнясьці ў скарбніцу адраджэньня Бацькаўшчыны, выдаў цэлыя кадры выкваліфікаваных працаўнікоў ува ўсіх галінах грамадзкага жыцьця. Апрача гэтага Беларускі Студэнскі Саюз, у той час, калі сярод старэйшага грамадзянства адбываліся бязлітасныя і шкодныя фэрмэнты, даводзячыя часта агульнаграмадзкую справу да вялікіх крызысаў, заўсёды стаяў на вышыні панадпартыйных паглядаў на грамадзкую справу, дасканальна ўяўляючы істоту сваіх заданьняў, як прадстаўнікоў маладое гэнэрацыі.

Урэшце Беларускі Студэнскі Саюз за ўвесь час свайго існаваньня быў той кузьняй грамадзкае мысьлі, у якой гартаваліся сілы лепшае часткі нашае моладзі, вышаўшае з беларускіх працоўных гушчаў.

Сяньня падсумоўваючы ўсе рэзультаты нашае дзесяцілетняе працы, мы павінны і надалей паставіць сабе за мэту — самаахвярную і вытрывалую працу на карысьць многапакутнай Бацькаўшчыны. Больш ахвярнасьці і энэргіі хай паложыць кожны на аўтар агульна-народнае справы і хай кожны студэнт усьвядаміць сабе, што найбольшы сэнс ягонага існаваньня ёсьць у тым, што ён зьяўляецца пакліканым да безінтэрэсоўнага служэньня сьвятым агульнанародным ідэалам.

У гэты вялікі для нас дзень мы радасна вітаем усё беларускае студэнства Заходняй Беларусі, эміграцыі, а так-жа нашых братоў — студэнтаў Беларусі Усходняй, з заклікам:

усім, як адзін, злучыцца пад беларускім бел-чырвона-белым сьцягам для ахвярнае і непрымірымае барацьбы над усебаковым адбудаваньнем Бацькаўшчыны.

Мы сяньня вітаем так-жа ўсіх тых, якія яшчэ пару гадоў таму назад былі разам з намі, як студэнты, а сяньня, па сканчэньні унівэрсытэтаў, кожны ў сваей галіне працуе на грунце грамадзкага жыцьця, і заклікаем іх да далейшага з намі сужыцьця, да супольнага змаганьня за нашую лепшую будучыню.

Урэшце вітаем сяньня ўсё беларускае грамадзянства і беларускі народ наагул, з запэўненьнем, што студэнская моладзь заўсёды гатова на найцяжэйшую барацьбу за нашыя сьветлыя ідэалы.

---

А. В-іч

# Беларускі Студэнскі Саюз за дзесяць год істнаваньня.

Беларускі адраджэнскі рух у сваім пэрманэнтным поступе перадусім тварыў пэўныя арганізацыйныя формы, здаючы сабе дакладна справу з вартасьці арганізаванае адзінкі, з тае сілы, якую яна адыгрывае ў сучасным сьвеце, зложаным з цэлага шэрагу карпарацыяў.

Беларускае студэнства, як найбольш сьведамая частка народу, бязумоўна ніколі не нэгавала гэтага мамэнту і арганізавалася пры першае магчымасьці. Так паўсталі беларускія студэнскія арганізацыі ў прадваеннай пары ў расейскіх унівэрсытэцкіх цэнтрах. Вялікая вайна і рэвалюцыйная пара стварыла новыя жыцьцёвыя варункі і вынікам іх былі новыя беларускія студэнскія арганізацыі.

Беларускі народ, ня гледзячы, на ўпорыстую працу лепшых сваіх сыноў, якая ня рэдка гранічыла ўпрост з гэройствам, ня гледзячы на колёсальны пад'ём народных масаў і адважнае іх змаганьне, пэўным зьбегам гістарычных акалічнасьцяў — незалежнасьці не здабыў, а гэтым самым беларускае студэнства мусіла, прынамсь у Заходняе Беларусі, здабываць веду ў польскіх унівэрсытэтах, або зусім эміграваць па здабыцьцё навукі з краю.

І вось бязумоўна пачалася арганізацыйная праца, беларуская студэнская моладзь пачала тварыць свае згуртаваньні для супольнае працы на карысьць Бацькаўшчыны і Навукі.

Не засталася і ў даўгу беларуская моладзь, якая апынулася на Віленскім Унівэрсытэце, уваскрошаным у 1919 г. Ад першага дня істнаваньня ўнівэрсытэту пачала разьвівацца думка сярод сту-

дэнтаў беларусаў аб патрэбе аб'яднаньня, разьвіваючыся, яна паволі прыбіралася ў рэальныя формы, аж нарэшце вылілася ў студэнскую арганізацыю пад назовам "Беларускага Студэнскага Саюзу".

Кароткая гісторыя яго паўстаньня выглядае больш менш так: У восені 1920 г. беларускае студэнства склікала ў аднэй з саль нашага ўнівэрсытэту арганізацыйную сходку, на якой запала пастанова стварыць беларускую студэнскую арганізацыю. На наступных сходах быў апрацаваны ўжо статут арганізацыі першпачаткава пад назоваю „Гуртка Студэнтаў Беларусаў", але зацьверджаньне яе не адбылося так хутка, статут прыйшлося зьмяніць, зьявілася і іншая назова, пад якой нашая арганізяцыя і па сяньняшні дзень разьвіваецца і працуе, а іменна „Беларускі Студэнскі Саюз". Зацьверджаньне Статуту наступіла ўжо ў 1921 г. дзякуючы стараньням т. зв. „Выканаўчага Камітэту" выбранага на адным з сходаў новапаўстаўшай беларускай студэнскай арганізацыі.

Па зацьверджаньні статуту ўжо можна было прыступіць да нармальнае працы, бо дзейнасьць першага органу Саюзу, „Выканаўчага Камітэту", зводзілася перадусім да стараньняў аб легалізацыі, выбіраецца першы Урад Беларускага Студэнскага Саюзу, да якога ўваходзяць наступныя калегі: Старшыня — А. Абрамовіч, сэкрэтар — Т. Куніцкі, скарбнік — Б. Туронак, сябры Ўраду — С. Малафеяў і С. Грынкевіч. Зарганізаваліся пры Саюзе і тры сэкцыі:

1) культурна-прасьветная, 2) выдавецкая і 3) навуковая.

Сэкцыя культурна-прасьветная ўзялася за працу над зарганізаваньнем таварыскага жыцьця студэнтаў і першым вынікам яе працы была першая беларуская студэнская вечарына-баль, якая адбылася 19 II. 22 г., адчыніў яе надзвычайна пекнай прамовай кал. Абрамовіч. Пасьля адбылася пастаноўка „Няскончанай Драмы", п'есы Ф. Аляхновіча, выступіў хор зложаны з 40 асоб, у канцы адбыліся танцы.

У часе танцаў студэнты беларусы падыймалі вячэрай сваіх гасьцей. Мілае ўражаньне пакінула на ўсіх гэтая вечарына, якою студэнты беларусы распачыналі афіцыяльна сваю працу, распачыналі, як і належыцца моладзі, ахвотна і вясёла.

Выдавецкая сэкцыя хутка дала сябе знаць, бо ўжо ў сакавіку 1922 году выпусьціла ў сьвет першы нумар органу Беларускага Студэнскага Саюзу пад назовам „Наш Шлях", які ў далейшым выйшаў за красавік і травень № 2—3 і за лістапад — сьнежань № 4, а пасьля ўжо, дзякуючы надзвычайна цяжкім матэр'яльным варункам, аж у 1924 годзе за сьнежань, як першы нумар „Студэнская Думка", якая выходзе аж па сяньняшні дзень.

У першым, другім і трэцім нумары „Нашага Шляху" ў перадавіцах акрэсьліваецца ў пекных словах тая лінія, па якой меўсяісьці наш Саюз і па якой ідзе, і нельга не зацытаваць адтуль пару слоў. І так піша кал. Крывічонак у № 1 „Нашага Шляху": „...У імяні „беларускі студэнт" крыецца шмат ідэалу. З гэтым імянем сільна зьвязаны паняцьця, навука, надзея лепшае будучыні, гарачае каханьне праў-

ды, сапраўднае волі наагул, асабліва для свайго падняволенага народу, шляхотнасьць, ахвярнасьць, і вернасьць сваім ідэалам...“

А ў № 2—3 кал. Радзіміч кажа: „...Наш Шлях застаецца чыстым, бо мы яго будзем рабіць, мы тыя, каторыя ўсе свае лепшыя думкі ахвяравалі дзеля зрэалізаваньня аднэй мэты. І блізка, блізка ўжо відаць, здаецца, усе народы згодныя, зьвязаныя сваімі ідэямі, роўныя, каторыя будуцьісьці шчасьліва праз жыцьцё, спакойна бяз ніякіх сумляваньняў. І прыйдзе тая пара, мы яе зробім“.

У тым-жа № калега Н. М. кажа: „Мы павінны выхаваць сябе на людзей не эгоістаў, не карыстнікаў, не кар‘ерыстаў, але тых гуманістаў, якія агульныя грамадзкія справы паставяць вышэй усяго, якія будуць дбаць аб дабры, ня толькі беларускім, але агульна-людзкім, аб шчасьці тых народаў, якія будзе абыймаць сваімі крыльлямі наша Маці-Беларусь.

Трэба дбаць, каб не пайсьці тым шляхам, якім пайшлі нашыя ўваскросшыя суседзі, захопленыя нацыяналізмам. Гэта нашыя заданьні“.

Сэкцыя навуковая Саюзу зарганізавала і дала цэлую нізку рэфэратаў і публічных лекцыяў за час свайго істнаваньня.

А адразу зарганізованая бібліотэка расьце, узмацняецца і працуе аж па сяньня.

Падаўшы такім чынам пачатак працы і самы арганізацыйны працэс нашага Саюзу, далейшую яго дзейнасьць папрабуем пераглядзець па парадку ў калейнасьці акадэмічных гадоў.

І так год 1920/21 і часткова 21/22 ідуць пад знакам унутранае арганізацыі і легалізаваньня, другая палова 21/22 году ўжо прыносіць нам цэлы шэраг імпрэзаў ці то рэпрэзэнтацыйнага характару, як ужо ўспомненая вечарына, (агулам за 20/21 год 2 вечарыны), выдавецтва часопісі, ці ўнутраняга, як шэраг рэфэратаў, сходаў, маёвак.

1922/23 акадэмічны год быў распачаты працай студэнтаў у выбарнае кампаніі да Сойму. Ня гледзячы на цяжкія абставіны жыцьця студэнты прынялі жывы ўдзел у выбарах на карысьць беларускае нацыі.

Распачалася ізноў пастаноўка п‘ес і ладжаньне рэфэратаў, за лістапад і сьнежань 1922 г. выйшаў № 4 „Нашага шляху“, у якім ужо супрацоўнічала шмат новых сілаў, але гэта быў ужо апошні нумар гэтае часопісі, наступіў доўгі перарыў, выкліканы надзвычайна цяжкімі матэр‘яльнымі варункамі. 1923/24 акадэмічны год быў годам мала інтэнсыўнае працы наагул, але ўсё-ж хоць у працягу яго ня выйшаў не адзін нумар студэнскае часапісі, адбылося пару рэфэратаў і вечарын. 1924/25 акад. год разам з інтэнсыфікацыяй беларускага жыцьця наагул, прынёс і большы размах у працы Студэнскага Саюзу. Гожа на гэтым месцы зазначыць, што сяньня аднак-жа ня гледзячы на страшны крызыс, які перажывае беларускі рух, Студэнскі Саюз ужо патрапіў яго не адчуваць так моцна і весьці працу без зьменшаньня хуткасьці тэмпо, аднак бязумоўна і сяньня і заўсёды пэўная залежнасьць была і будзе, бо мы зьяўляемся хоць і аўтаномныя, але часткаю цэласьці.

І так у 1924/25 годзе была зладжана цэлая нізка рэфэратаў на самыя ражнародныя тэмы, якія чыталіся аднак пераважна запрошанымі, лектарамі і так адбыліся рэфэраты гр. гр. А Луцкевіча, Б. Тарашкевіча, Р. Астроўскага, Дубіцкай і іншых.

Была прыгатаваная вечарына-канцэрт, але яна не змагла адбыцца дзеля таго, што п. Камісар Ураду ня даў дазволу на зладжаньне такой.

Выдавецкі бок у гэтым акадамічным годзе прэзэнтуецца найхарашэй і зьяўляецца адным з найбагацейшых па колькасаці нумароў часопісі.

Пасьля доўгага перарыву, бо як я ўжо ўспомніў, апошні нумар часопісі „Наш Шлях" выйшаў у 1922 г. у сьнежню, пачаў ізноў выдавацца орган беларускага студэнства пад назоваю „Студэнская Думка", у 1924/25 акад. годзе вышла яе пяць нумароў, пры чым адзін з іх быў сканфіскаваны загадам п. Камісара Ураду на м. Вільню.

1925/26 акад. год зьяўляецца таксама годам даволі цьвёрда пастаўленае працы на грунце Саюзу. Добра гэта ілюструе цэлы цыкль публічных лекцыяў, зладжаных Саюзам, гэтае традыцыйна-галоўнае дзейнасьці Саюзу. — Чыталі гэтыя лекцыі кс. А. Станкевіч, інж. А. Трэпка і А. Луцкевіч, апрача гэтага былі ладжаны рэфэраты выключна ў сваім крузе, з мэтай самаразьвіцьця. У гэтым-жа годзе стварылася пры Саюзе сэкцыя працы.

„Студэнскае Думкі" выйшла менш у гэтым годзе, бо толькі два нумары, але абодва надта цікавыя; адзін з іх прынёс артыкул аб спробах заснаваньня беларуска-польскага студэнскага гуртка на нашым унівэрсытэце і бязумоўна аб поўным фіаско гэтае спробы.

Была зладжана ў гэтым годзе і студэнская вечарына-спэктакль з пастаноўкай п'есы Ф. Аляхновіча „Шчасьлівы Муж", але ня глядзючы на вялікае паводжаньне гэтае імпрэзы больш пастановак у гэтым годзе не ўдалося зрабіць.

1926/27 акад. год ізноў зьяўляецца годам застою ў працы. „Студэнская Думка" ня выйшла ў гэтым годзе ні разу, адбылося толькі некалькі рэфэратаў і вечарынак, гэта ізноў тлумачыцца напяцьцем беларускага палітычнага жыцьця да кульмінацыйнага пункту ў сувязі з ростам Бел. С. Р. „Грамады", і пазьнейшымі рэфлексыямі ў сувязі з ліквідацыяй гэтае як ніяк адыграўшае ў беларускім жыцьці пэўную ролю, а так-жа ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Сойм і Сэнат.

Трэба зазначыць, што вясной гэтага году Урад Б. С. С. дэфінітыўна вырашыў прыступіць да „А.Б.С.А." (Аб'еднаньня Бел. Студ. Арганізацыяў), што агульны сход у наступным акадэмічным годзе зацьвердзіў.

1927-28 акад. год ізноў дае максымум магчымае працы, быццам пасьля хвілёвае перадышкі ў папярэднім годзе. Прачытана было ў гэтым годзе цэлая нізка лекцыяў на самыя ражнародныя тэмы, як напр. „Асадніцтва на Беларусі", „Новая Зямля" Якуба Коласа, „Праблема русыфікацыі пад Польшчай і Беларусы", — „Трагэдыя беларускае інтэлігенцыі", „Газавая і бактэрыёлёгічная вайна ў мінуўшчыне і буду-

чыне“ і т. д. і т. д. Ужо самыя галіны парушаныя ў назовах рэфэратаў даюць абраз працы і стараньняў сяброў Б.С.С. над разьвіцьцём агулам, а ў беларускай справе ў падрабязнасьці.

Пад умелым кіраўніцтвам кал. Амельяновіча Максіма ў гэтым годзе добра ідзе справа з пастаноўкамі на сцэне, добра прыгатаваных вечарын-спэктакляў.

22-га лютага ў пекна дэкараванае салі Т-ва Б.Ш. Б.С. Саюз зладзіў аўтарскі вечар сваіх сяброў, які прайшоў вельмі і вельмі ўдала,



Цяперашні Урад Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні: сядзяць з права на лева: Скарбнік — Мар'я Зянюковая; Сэкрэтар — Аўгень Бартуль. Старшыня — Кастусь Глінскі; Вольны сябра—Станіслаў Станкевіч і Віцэ-Старшыня—Зоя Каўшанка.

быццам падкрэсьліваючы неабходнасьць падобнага роду імпрэзаў. Аднача сна ў гэтым годзе ўжо рабіліся спробы арганізаваць беларуска-украінскі студэнскі хор.

„Студ. Думка“ выйшла ў гэтым акадэмічным годзе два разы, прыносячы цікавыя і цэнныя матэр'ялы.

1928-29 год таксама даў нам два пекныя нумары „Студ. Думкі“, з якіх адзін прынёс дыскусыйны артыкул кал. Тулейкі „Аб патрэбе стварэньня студэнскай меншасьцёвай арганізацыі“, ідэя праведзеная зьдзейсьнілася прынамсь часткова даючы супрацоўніцтва Беларускага Студэнскага Саюзу з Саюзамі Літоўскіх і Украінскіх студэнтаў.

Адразу з пачатку гэтага году побач з выданьнем „Студ. Думкі“, адбылася вельмі салідна зарганізаваная вечарына з пастаноўкай п'е-

сы Ул. Гутоўскага „Сурдут і сярмяга“, даючы пачатак наступным імпрэзам.

У гэтым годзе публічныя лекцыі, якія адбываліся ў прошлых гадох не сыстэматычна, Урад Б. С. С. рашыў сыстэматызаваць творачы цэлы цыкль лекцыяў, з беларусазнаўства спэцыяльна. Такіх лекцыяў адбылося 18, апрача таго адбыўся цэлы рад рэфэратаў спэцыяльна для сяброў Саюзу, а часткова і для гасьцей.

Дзякуючы таму, што ў гэтым годзе Б.С.С. меў адпаведнае памешканьне ўдалося Ураду зрабіць цэлы рад суботнікаў, даючы сябром Саюзу больш лёгкі спосаб адпачынку і праводжаньня часу.

Нельга ня ўспомніць, што Урад Б.С.С. ў гэтым годзе пастанавіў зьвярнуцца да беларускіх пасольскіх клюбаў з просьбай аб дапамозе і толькі ад аднаго Раб. Сялянскага такую атрымаў, але і то ўсяго ў працягу пару месяцаў.

Трэба тут зазначыць, што агулам справа дапамогі студэнству ў шырэйшых кругог беларускага грамадзянства не трактуецца з належнай павагай. Калі ня лічыць апошняе дапамогі Дабрадзейнага Т-ва, успомненае дапамогі Сял.-Раб. Клюбу, дый кароткае таксама помачы Бел. Інстытуту Гас. і Культуры, прыходзілася аграніčывацца Б. С. Сазу нясталымі даходамі ў постаці даходаў з вечарын, з падпісных лістоў, дый сяброўскіх складак.

У свой час праведзеная справа звароту да самаўрадавых інстытуцыяў за нялічнымі выняткамі не дала канкрэтных вынікаў, ня гледзючы, што самаўрады на нашых землях большасьць радных маюць беларусаў, у многіх выпадках прызнаныя самаўрадам грошы адказваў соймік, аднак пару сот залатовак здабыў Б. С. Саюз гэтым шляхам.

У гэтым акад. годзе была так-жа вельмі пекна зладжана акадэмія на чэсьць Міхася Чарота з прычыны 10-лецьця яго літэратурнае працы.

Але можа найважнейшым здабыткам гэтага году зьяўляецца належна пастаўленае і праведзенае ўжо ўспомненае Беларуска-Літоўска-Украінскае студэнскае супрацоўніцтва.

У гэтай галіне працы трэба аднатаваць: — два таварыскія студэнскія Літоўска - Украінска - Беларускія вечары з рэфэратамі, першы аб „Адраджэньні Украіны“, другі аб „Адраджэньні Беларусі“, міла і ўмела зарганізаваныя, асабліва першы пакінулі пекнае ўражаньне на прысутных — першы складаўся з гэрбаткі, прамоў, рэфэрату (ужо ўспомненага) і танцаў пераплятаных песьнямі і гульнямі — у такі спосаб зацесьняліся вузлы прыязьні між студэнствам трох народаў, зьвязаных ня толькі сяньняшнім, але і мінулым і будучым, гэтае пекнае супрацоўніцтва контынуавалася і кантынуецца цяпер.

1929/30 акад. год ужо зусім не далёкі ад сяньняшняга дня прынёс нам паза творчай працай пекнай у сваёй істоце, пэўныя цёмныя хвіліны ў постаці разладу, які хвілёва паўстаў у радох сяброў Б. С. Саюзу, даючы аднак у рэзультаце больш цесную спайку сяброў. Разлад гэты пачаўся з хвілінаю скліканьня агульнага сходу па сканчэньні 28/29 акад. году, у сувязі з завешаньнем пару сяброў за непадпа-

радкаваньне пастановам большасьці — завешаныя сябры прабавалі рабіць фронду і выразна імкнуліся да разьбіцьця Саюзу ў інтарэсе вонкавых чыньнікаў, з гэтай мэтай яны нават пачалі выдаваць сваю часопісь „Вольную Думку", але ў агульным выніку мэты сваёй не дапялі. Некалькіх Саюз змушаны быў выкінуць, прыймаючы пад увагу свой нацыянальны твар, даючы нарэшце магчымасьць да спакойнае працы.

Трэба зазначыць, што гэты год даў Студ. Саюзу шмат новых сяброў і то ў сувязі з прызнаньнем — правоў публічнасьці двум беларускім гімназыям.

Гэты год шмат даў Саюзу ў галіне самапомачы, дзякуючы выбітнае дапамозе Бел. Дабрадзейнага Т-ва, але трэба адзначыць, што ўвага Саюзу зьвярталася выключна ў кірунку помачы незаможным сябром, як ніяк аднак-жа быў выданы адзін, але вельмі добры нумар „Студ. Думкі" у сувязі са сьвяткаваньнем 400-угодкаў Статуту Вял.-Князьства Літ. і 10-лецьця са дня смерці Ів. Луцкевіча, у прысьвячаных гэтым юбілеям абходах Б. С. С. узяў побач з беларускім грамадзянствам удзел.

Драматычная сэкцыя зладзіла ў прошлым акад. годзе толькі адзін спэктакль-вечарыну, але за тое адбыўся цэлы шэраг, бо аж 13 рэфэратаў, чытаных выключна сябрамі Саюзу. Некалькі Літоўска-Беларуска-Украінскіх суботнікаў і вельмі мілых гарбатак, пакінулі з прошлага году пекнае ўражаньне аб сяброўскае лучнасьці студэнтаў гэтых трох народаў, аднак-жа поўным выразам звонку гэтага супрацоўніцтва быў І-шы Рэпрэзэнтацыйны Канцэрт-Баль студэнтаў Беларусаў, Украінцаў і Літвіноў, які адбыўся пад пратэктаратам Яго Магніфіцэнцыі Рэктара нашага Унівэрсытэту.

У гэтым годзе Б. С. С. першы раз ад належаньня свайго да „А.Б.С.А." выслаў двух сваіх прадстаўнікоў на зьезд „А.Б.С.А.", які адбыўся ў студзені 1930 г. у Празе Чэскай, апрача таго нельга не адцеміць у гэтым годзе конфэрэнцыі адбытай з кал. І. Паркэсам, сэкрэтаром Міжнароднае Студ. Помачы („International Student Service") праз дэлэгатаў Беларускага, Літоўскага і Украінскага Студэнскага Саюзаў

У гэтым-жа годзе Б.С.С. завёў сабе шапкі для сваіх сяброў, пекна стылізаваныя ў народных беларускіх узорах і колерах. Пашырылася так-жа ў гэтым годзе Бібліатэка Саюзу, было куплена шмат навучных прац, як падручнікаў для сяброў, а так-жа многа і беларускіх бэлетрыстычных выданьняў.

Нельга не адзначыць і аднаго сумнага факту з мінулага году, гэта вядомага нападу віленскіх камсамольцаў на наш Саюз, у дзень урачыстага паседжаньня Саюзу з рацыі 12-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, нападу зробленага ня толькі фізычнай сілай, як палкамі і камянямі, але і хэмікаліямі (як напр. серны квас). Напад гэты быццам меўся быць адказам на пратэстацыйнае веча беларускага студэнства ў справе перасьледаваньняў беларускага руху ў Савеччыне.

Сёлетні акадэмічны год Б. С. Саюз ужо распачаў сваёй традыцыйнай дзейнасьцю, даючы ў галіне сцэнічнае — вечарыну-спэк-

такль, у галіне выдавецкай № 2 (13) „Студэнскае Думкі“ за кастрычнік, рэфэрат для новаўступаючых сяброў і спробы арганізацыі Беларуска-Украінскага Хору. Вось больш менш вельмі і вельмі агульны пагляд на жыцьцё і працу нашага Саюзу, яна паволі, але стала разьвіваецца і расьце разам з лікам сяброў, трудна даць больш падрабязны агляд, бо нават дзейнасьць аднаго чалавека ня так лёгка апісаць за 10-ць год, а што-ж казаць аб арганізацыі.

Галоўнай мэтай Беларускі Студэнскі Саюз, побач з пэўнай рэпрэзэнтацыяй, паставіў сабе таварыскае зблiжэньне сваіх сяброў і агульную працу над самавыхаваньнем на грамадзка-нацыянальным і навуковым падкладзе і да гэтага бязумоўна няўпынна ідзе выстаўляючы вялікі лёзунг — Бацькаўшчына і Навука.

---

## *Н О Ч*

*(Сонэт).*

*Спусьцілась ноч над вёскаю ціхой,*
*За цёмны кругазор схавалісь хмары,*
*І слала ноч на землю чары,*
*Туманнай ўслала землю пеляной.*

*Застыў алешнік над вадой,*
*І лес заціх у ночнай мары,*
*На неба зоркі — Божы дары*
*Узыйшлі, зардзіліся чарадой.*

*Дрыжыць ад іх нябеснае скляпеньне,*
*Дрыжыць і месяц, бы ў вадзе.*
*Тугу, якоесь лятуценьне*
*Ноч на маю душу кладзе.*

*О ноч! прыгожа ты ў сваей цішы!*
*Даеш спакой для стомленай душы!*

*Л. Барысаглебскі.*

---

## ЧАМУ СЭРЦА У РАДАСЬЦІ СТУКОЧА?*)

**(Беларускаму Студэнскаму Саюзу прысьвячаю)**

О, чаму так сэрца ў радасьці стукоча?
О, чаму пульсуе гэтак шпарка кроў?
Радасьць і прадоньне зьзяюць ў маіх вочах,
Бо на родных гонях песьня чутна ўзноў.

А ў зялёным гаю лірнікі зышліся,
Лірнікі зышліся на вялікі баль.
Ціхія акорды песень завіліся,
Завіліся ў лісьці, паляцелі ўдаль.

Паплылі радамі па-над гаем песьні,
Па-над полем, лугам, між зялёны бор,
Забягалі ўсюды, як ручэй прадвесьня:
У кожную вёску, к кожнаму на двор.

Ціхія акорды, палкія трымценьні
Распалялі ў сэрцах радасьці вагонь;
На радзімы Сьветач бурныя імкненьні
Пацягнулі к жыцьцю лепшых міліён.

І пакажуць сьвету, Беларусі дзеці,
Ніваў і загонаў гордыя сыны,
Што і з не апошніх, на зямлі — плянэце,
Могуць красавацца і цьвісьці яны.

Хай цяпер забудуць „моцныя краіны“
З сына Беларусі раба гадаваць...
Мы цяпер і самі на былых руінах
Адбудуем Новы ўласны свой Палац!

Ужо і так даволі—цэлыя стагодзьдзі
Беларусь таптaлі боты маскаля...
Мы і самі зможам ў бурнае разводзьдзе
Край замілаваны грудзьмі адстаяць.

Дык сьмялей за працу, хто ня здрадзіў краю!
Помні пра Радзіну, Беларусі сын!
Чуй, што ліры граюць у зялёным гаю,
Каб ня быў з вас кожны у жыцьці адзін.

Бо ў „яднаньні сіла“, помні гэта, браце!
Зможам толькі разам край адбудаваць.
Ці ты будзеш ў полі, ці ты будзеш ў хаце,
Аб адным хай толькі думкі лятуцяць!

Нясьвіж 22.IX. 30 г. **С. Кулеш.**

---

*) Верш гэты напісаны маладым нашым поэтам студэнтам Менскага Пэдагогічнага Тэхнікуму, Самуілам Кулешам, які за народныя беларускія ідэалы быў прасьледаваны праз „чырвоныя ўлады ў БССР і на пярэдадні свайго арышту ўцёк у Заходняю Беларусь і зьяўляецца сяньня нашым супрацоўнікам. Рэд.

Ст. Станкевіч.

# Гісторыя Беларускага Студэнскага Руху.

Калі пасьля двухвяковае няволі беларускага народу на рубяжы XVIII і XIX ст. у выніку агульнагістарычных абставінаў сярод нялічнае інтэлігенцыі нашага краю пачынае патроху будзіцца нацыянальная сьвядомасьць, то галоўных барацьбітоў за адраджэньне народу мы бачым перадусім у асобах нашае студэнскае моладзі. І нічога дзіўнага, бо якраз моладзь, як больш ідэйны і паступовы элемэнт грамадзянства, заўсёды зьяўлялася авангардам у розных народна-грамадзкіх рухах. Такім спосабам і мы маем права сказаць сяньня, што да пэўнае меры першымі пачынальнікамі беларускага адраджэнскага руху была студэнская моладзь, грамадзкі кругазор каторай, ня ў прыклад здэнацыяналізаванай тагачаснай шляхце, апіраўся на новых ідэях, вытвараных новымі варункамі часу.

Першыя, нявыразныя яшчэ, праблыскі прабуджэньня нацыянальнае адасобленасьці і сьвядомасьці сярод моладзі нашага краю заўважаюцца ўжо ў дзейнасьці і паглядах студэнства Віленскага Унівэрсытэту на пачатку XIX ст., у яго краёва-лёкальнай ідэолёгіі. Студэнскія гурткі „Шубраўцаў", „Філяматаў" і „Прамяністых" паводле праф. У. Ігнатоўскага*) мелі ўжо роўналежна з глыбокім польскім патрыётызмам, і выразны беларускі мяйсцовы колёрыт, на роўні з польскім, цікавіліся і беларускім народам, аб чым, між іншым, сьведчыць Статут „Прамяністых", дзе 8 арт. дамагаецца „жадаць дабра сваім адназемцам, кожнага стану і ўсяму народу наагул, захоўваць карысныя звычаі сваіх продкаў, кахаць сваю прыродную мову і вучыцца ёй". З гэтага-ж асяродзьдзя часткова вышлі нашыя т. зв. „старашляхоцкія романтыкі", якія хоць ідэолёгічна далёкімі былі яшчэ ад вымогаў беларускае масы, то аднак дзякуючы сваей беларускай паэтыцкай і агульна культурнай дзейнасьці прыгатавалі грунт пад разьвіцьцё беларускае літэратуры. З гэтых пісьменнікаў на асаблівую ўвагу заслугоўваюць Я. Баршчэўскі і Я. Чачот, — дзейнасьць каторых прыпадае на іх студэнскія гады.

Больш шырэйшы размах беларускай студэнскай дзейнасьці прыпадае на 80—90 гады мінулага сталецьця, калі паўстаўшыя ў той час рэволюцыйна-народніцкія рухі сярод народаў былае Расеі, знайшлі падатны грунт і на Беларусі. Сярод беларускай здэнацыяналізаванай інтэлігенцыі будзіцца пачуцьцё абавязку барацьбы з царызмам, разам з гэтым будзіцца ў ей і нацыянальнае пачуцьцё. Хоць у гэтых людзей беларускае пытаньне парушалася па толькі, па колькі вымагалі гэтага агульнарэволюцыйныя пляны, то аднак беларускае народніцтва, стаў-

*) Праф. У. Ігнатоўскі — „Гісторыя Беларусі", Менск 1928 г., стр. 72.

ляючы ў сваей праграме адбудаваньне Бацькаўшчыны на фэдэрацыйных асновах з усімі народамі Расеі, палажыла першы магутны фундамант пад будучую беларускую работу.

У гэты мамэнт на арэну барацьбы выступае ў ня меншай меры і беларускае студэнства, якое пачынае ўжо арганізавацца і ўсьведамляцца. У гэты час, як сьведчыць нелегальная часопісь беларускіх народавольцаў з 1884 г. — „Гоман“, у многіх унівэрсытэцкіх цэнтрах Расеі былі ўжо беларускія студэнскія гурткі, у каторых праводзілася народніцкая ідэолёгія. Таксама сярод выдаўцоў „Гоману“ былі прадстаўнікі студэнскае моладзі, аб чым сьведчыць учасьнік народніцкае арганізацыі ў Менску, бацька поэты М. Багдановіча ў сваіх лістох да А. Навіны. Першы добра вядомы нам зачатак беларускае студэнскае арганізацыі быў у Маскве, якая паўстала якраз у вастрозе п. н. „Беларускага Сацыялістычнага Гуртка“, калі ў 1891 годзе падчас студэнскіх рэволюцыйных выступленьняў адбываліся масавыя арышты, закончаныя пасаджэньням вялікай лічбы студэнтаў у знаным вастрозе „Бутырках“. Гэты факт паўстаньня першай ведамай нам беларускай студэнскай арганізацыі ў вастрозе быў свайго роду прыпадкам, аднак бяссумліву мае для нас сяньня вялікае сымболічнае значэньне, бо пры сваіх нарадзінах, будучых адначасна нарадзінамі дзейнасьці беларускага студэнства наагул, як-бы вызначыў наперад яго шлях, як-бы быў прароцтвам яго далейшага лёсу. Аб гэтым гуртку гаворыць учасьнік народніцкага студэнскага руху А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.) ў сваіх „Успамінах“. Гэты-ж гурток выдаў потым у 1891 г. беларускі пераклад „Сыгналу“ У. Гаршына.

Першыя спробы беларускай дзейнасьці канца XIX ст. хаця ня выходзілі з рамак ідэолёгіі народавольцаў, то аднак гэтыя мізэрныя студэнскія пачынаньні на чале з пісьменьнікам Ядвігінам Ш. скранулі з месца беларускі студэнскі рух, які ад гэтага часу неперарыўна будзе разьвівацца і ахапляць што раз шырэйшыя кадры маладой інтэлігенцыі.

Грамадзкая дзейнасьць беларускага студэнства ахапляе шырэйшыя кругазоры жыцьця і канкрэтна афармляецца толькі ў першых гадох бягучага сталецьця, калі беларускі рух пачынае выразна вылучацца з розных агульных плыняў і атрымлівае ідэолёгію масы Цэнтрам беларускага студэнскага жыцьця, як і грамадзкае працы наагул, становіцца Пецярбург, дзе ў той час знаходзіўся найбольшы лік сьвядомае інтэлігенцыі. Дзякуючы стараньням братоў Луцкевічаў і В. Іваноўскага, у той час як студэнтаў, у 1902 г. закладаецца ў Петраградзе беларуская студэнская арганізацыя — „Кружок Беларускай Народнай Асьветы“, які ў гэтым-жа годзе выпушчае адозву да краёвае інтэлігенцыі з заклікам нясьці беларускаму народу асьвету ў яго роднай мове.

Стараньням „Кружка“ за сабраныя між сваіх сяброў грошы выдаецца літаграфічная аднаднёўка „Калядняя Пісанка“ ды ў наступным годзе зборнік Я. Лучыны „Вязанка“. „Кружок“, як арганізацыя нелегальная, ня мог шырэй разгарнуць свае працы, аднак гуртуючы ў сабе ўсё беларускае студэнства ў Петраградзе многа зрабіў

у кірунку грамадзкага выпрацаваньня сваіх сяброў. Духовым павадыром і кіраўніком фактычным „Кружка“, як і ўсяе беларускае студэнскае дзейнасьці наагул, становіцца Іван Луцкевіч, які глыбінёю духа і безгранічнае ахвярнасьці парывае за сабой усе лепшыя часткі моладзі. Ён-жа падае ініцыятыву ў розных студэнскіх пачынаньнях; ёнжа прымае галоўны ўдзел пры кожным выкананьні намечаных плянаў.

Калі-ж у 1903 годзе паўстае першая беларуская палітычная партыя — „Беларуская Рэволюцыйная Грамада“, то ў радох яе закладчыкаў бачым перадусім студэнскую моладзь. Студэнства ў гэты час тварыла наагул найбольш жывы элемэнт, давала прыклад у змаганьні за беларускую адраджэнскую ідэю.

Таксама вядзецца вялікая беларуская работа ў розных студэнскіх „зямлячаствах“, якія рэкрутаваліся пераважна з выхаджэнцаў беларускае вёскі. Нацыянальна сьвядомы характар мелі перадусім студэнты менчукі, якія яшчэ ў сярэдняй школе ўзгадоўваліся ў менскім беларускім гуртку, закладзеным братамі Луцкевічамі. А як сьведчыць бацька паэты Багдановіча, яшчэ ў 80 гадох мінулага сталецьця сярод вучняў менскай Духоўнай Сэмінарыі вялася ажыўленая беларуская праца, гдзе на чало маладых працаўнікоў высоўваўся вучань Гаховіч. Сярод віленскай моладзі вялі шырокае ўсьведамленьне таксама тыя-ж браты Луцкевічы ды В. Іваноўскі. На гэты-ж час прыпадае студэнская дзейнасьць няструджанае грамадзкае працаўніцы рэволюцыянеркі і паэткі Цёткі (А. Пашкевічанкі), якая між 1902-4 г. г. студ'юе на Вышэйшых Жаноцкіх Курсах Лесгафта ў Петраградзе і вядзе вялікую працу нацыянальнага ўсьведамленьня сярод курсістак.

Таксама на чале створанай у 1904 г. „Сацыялістычнай Партыі Белай Русі“ стаялі варшаўскія студэнты, браты Трускоўскія, М. Фальскі, А. Жаба і інш.

Як сьведчыць А. Навіна, нават пры так важным здарэньні, як закладзіны першае беларускае газэты ў 1906 г. „Нашае Долі“, бралі беспасярэдні ўдзел прадстаўнікі студэнскае моладзі, як: А. Трэпка Б. Земенцкі — з Менску, Цётка, Іваноўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Ф. Умястоўскі — з Пецярбургу ды група вучняў з віленскае хіміка-тэхнічнае школы.

Як бачым, беларуская студэнская праца вялася ўжо ў вельмі шырокім маштабе, была галоўным пунктам увагі ўсяго сьвядомага грамадзянства. Доказам іх умелае і не разьлічанае на ніякія труднасьці працы быў добра зарганізаваны ўдзел беларускага студэнства на Ўсеславянскім Зьезьдзе Паступовага Студэнства ў Празе Чэскай у 1908 г. Гэты мамэнт мае для нас непамерна вялікае значэньне, як першы выступ зарганізаванага беларускага студэнства на міжнароднай арэне. Беларуская дэлегацыя ў складзе Івана Луцкевіча, Абухоўскага і іншых, пад пачэсным старшынствам рэдактара „Нашае Нівы“ А. Уласава вельмі ўмела патрапіла зарэпрэзэнтаваць беларускае студэнства і зьвярнуць на сябе вялікую ўвагу ўсяго маладога славянства. Пасьля гарачых прамоваў беларускіх студэнтаў, у якіх выліваліся горкія скаргі над бязьлітасным

зьдзекам над беларускім народам, зьезд прыняў спэцыяльную рэзолюцыю, тэкст каторай дзеля яго гістарычнай важнасьці, прытачаю:

„Уважаючы, што беларускі народ, — хаця ён да гэтага часу быў усімі забыты і яго культурныя патрэбы былі зацісьнены, усё-ж такі ня страціў сваей мовы, звычаяў, ды ўзноў прабіваецца к новаму жыцьцю, — зьезд паступовых славянскіх студэнтаў у Празе прызнаў, што для свайго жыцьця гэты народ павінен і мае права дамагацца: 1. каб у Беларусі было заведзена агульнае навучаньне ў роднай мове яго; 2. каб у сярэдніх школах выкладалі гісторыю беларускую і вучылі мовы беларускай; 3. для ўзросту культуры беларускага народу, каторы жыве з зямлі, каб пачаткаваю навуку аб сельскай гаспадарцы пры народных школах, а таксама зімовыя курсы і сярэднія школы гаспадаркі сельскай, гдзе навука давалася-б пабеларуску; 4. каб у Вільні адкрылі беларуска-літоўскі ўнівэрсытэт; 5. а пакуль гэта будзе, каб зявялі ў іншых унівэрсытэтах расейскіх катэдры гісторыі і этнаграфіі беларускай, бо патрэбны вучыцялі гэтых навук: 6. у ва ўсіх гэтых справах беларусаў будзе падтрымліваць усё паступовае славянства“.

Яя зазначана вышэй, галоўным цэнтрам беларускага студэнскага жыцьця быў Пецярбург. Тут побач з іншымі студэнскімі арганізацыямі існуе ўжо ў 1909 г. арганізацыя студэнтак Пецярбурскіх Жэнскіх Курсаў. Вясною 1912 г. стараньнем студэнта Аўгеня Хлябцэвіча і іншых паўстае „Беларускі Навукова-Літэратурны Кружок Студэнтаў Пецярбурскага Унівэрсытэту“, мэтаю якога ёсьць навуковае пазнаньне духовага і грамадзкага жыцьця беларускага народу. Гэты „Кружок“ быў найважнейшай і найбольшай творчай беларускай даваеннай студэнскай арганізацыяй. У 1913 г. стараньнем Ар. Смоліча паўстае там-жа пры Сельска-Гаспадарскіх Курсах „Беларускі Студэнскі Хаўрус“, які толькі ў наступным годзе змог праявіць сябе ў шырэйшым маштабе працы. Апрача гэтага беларуская нацыянальная сьведамасьць шпарка прабіваецца ў муры Каталіцкай Духоўнай Акадэміі, сеючы сярод беларускіх духоўнікаў зерня нацыянальнае сьвядомасьці. З гэае-ж Акадэміі вышаў вялікі лік ксяндзоў, якія і сяньня ідэйна працуюць на ніве беларускага адраджэньня. Пецярбурскае беларускае студэнства апрача працы арганізацыйнага характару ды жывога супрацоўніцтва ў розных беларускіх пляцоўках вядзе шырока культурную працу, ладзячы тэатральныя прадстаўленьні, лекцыі і інш. Шчырым апякуном беларускае студэнскае моладзі ў Петраградзе зьяўляецца праф. Б. Эпімах-Шыпіла, адна з найбольш заслужаных адзінак у беларускім руху.

Сьледам за Пецярбургам ідуць і іншыя навуковыя цэнтры былае Расеі, а таксама сярод студэнтаў некаторых унівэрсытэтаў заграніцы прабуджаецца беларускі дух. Гэтак у 1908 г. паўстае сільная беларуская студэнская арганізацыя „Беларуская Нацыянальная Хэўра“ пры Глухаўскім Вучыцельскім Інстытуце на Чарнігаўшчыне.

„Хэўра“ пад кіраўніцтвам поэты Я. Журбы да самае вайны вядзе інтэнсыўную працу ў галіне самаўзгадаваньня ў беларускім духу і шырэньня народнае асьветы.

У 1909 г. ведаем аб існаваньні моцнае беларускае студэнскае арганізацыі пры Федосіўскім Вучыцельскім Інстытуце ў Крыме, сярод вучняў — беларусаў каторага моцна разьвіта беларуская сьведамасьць. У гэтым-жа часе існуе моцны беларускі студэнскі гурток пры ўнівэрсытэце ў Дорпаце (у Юр'яве), галоўнымі працаўнікамі каторага былі між іншым знаныя сяньня імёны Х. Імшэніка, В. Друшчыца і інш. Таксама творыцца вельмі моцная беларуская студэнская пляцоўка ў Варшаве. Варта адзначыць, што прычынаю вялікага наплыву беларускай моладзі ў унівэрсытэты Дорпацкі і Варшаўскі ёсьць тое, што расейскі ўрад наўперад прызнаваў права вучням Праваслаўных Духоўных Сэмінарыяў, пасярод якіх найбольш кіпела беларуская праца, паступаць толькі ў вышуспомненыя ўнівэрсытэты.

У 1914 г. закладаецца пры Інстытуце Сельскае Гаспадаркі ў Пулавах (Нова—Александрыі) „Студэнскі Гурток па вывучэньню Беларусі і Літвы“, які ставіць сабе за мэту ў першую чаргу рабіць досьледы беларуска-літоўскага краю з боку сельска-гаспадарскага, эканамічнага, ляснога і гістарычнага. Таксама вядзецца інтэнсыўная праца сярод вучняў Віленскага Хрысьціянскага Вучыцельскага Інстытуту, якія ўжо ў 1907 г. выступаюць актыўна на ніве беларускага адраджэньня. Цікава зазначыць, што ў Маскве, дзе ўжо нават пад канец XIX ст. кіпела беларускае студэнскае жыцьцё, цяпер хоць многа там знаходзілася нацыянальна сьвядомага студэнства, якія аднак не змаглі стварыць свае студэнскае арганізацыі.

З беларускіх студэнтаў, выдатных у беларускім руху варта яшчэ адзначыць пясьняра М. Багдановіча, студ'юючага ў Юрыдычным Ліцэі ў Яраслаўлі і маладога поэту Сяргея Палуяна, абодвух памёршых у маладым веку.

З загранічных бел. студ. пляцовак даваеннае пары варта адзначыць Кракаў, дзе ў 1908-9 г., як палітычная эмігрантка, вучылася Цётка і вяла там беларускую працу, а так-жа Табор (Чэхія), дзе стараньнем студэнта Я. Крагельскага арганізавалася беларуская студэнская моладзь.

Шырокая і плодная студэнская праца, ведзеная ў многіх унівэрсытэцкіх цэнтрах, стварала тую недагоднасьць, што ня было адзінага і сталага лучніка паміж студэнствам, ня было цэнтральнае арганізацыі, якая-бы ўзгадняла і нармавала працу ўсіх паасобных гурткоў. Вось-жа думка стварэньня такой агульнай арганізацыі паўстала перад усім сярод петраградзкага студэнства. З гэтаю мэтаю пачынае ў 1914 г. выходзіць у Петраградзе беларуская студэнская часопісь „Раніца“, якой аднак пабачыў сьвет толькі першы нумар. Наляцеўшая з бліскавічнай шыбкасьцю ваенная завіруха перарвала нармальную студэнскую працу.

Вось кароценькі агляд беларускага студэнскага руху да часоў сусьветнае вайны. Беларускае студэнства пачынаючы ад 1906 г. гуртавалася ў першую чаргу каля „Нашае Нівы“, гэтага эвангельля беларускага адраджэньня, з яе чэрпала духовае падтрыманьне, на ей апірала свой грамадзка-народны кругазор. Беларуская студэнская моладзь гэтае пары апрача свае арганізацыйнае працы ды жывога ўчасьця ў дзейнасьці старэйшага грамадзянства ішло перад усім на вёску, у народ, дзе ўжо практычна рэалізавала намечаныя пры супольнае працы пляны. Дзейнасьць сярод народу вялася галоўным чынам у двух кірунках: папершае будзілася нацыянальная сьведамасьць масаў, падругое зьбіраліся матэр'ялы з народнае творчасьці, памяткі мінуўшчыны, вяліся досьледы над народнай мовай, адным словам вялася праца навуковая.

Перадусім аднак трэба зазначыць, што тагачаснае беларускае студэнства, прыкладам студэнству б. Расеі наагул, адзначалася непамернай ідэйнасьцю і самаахвярнасьцю. Яно ўсьведамляючы выразна, што на ім ляжыць адказнасьць за далейшы лёс Бацькаўшчыны, старалася набыць сабе адпаведныя грамадзкія кваліфікацыі. Дзеля гэтага побач з іншаю працаю галоўная ўвага зьвярталася на ўласнае грамадзкае выхаваньне; справа навуковага пазнаньня беларускага народу і яго жыцьця была прадметам вялікага заінтэрасаваньня. Гэты мамэнт вельмі характэрыстычны, асабліва ў параўнаньні да сучасна студэнства, дзе справа дакладнага пазнаньня Беларусі адсоўваецца на задні плян. І наагул, калі мы прыгледзімся бліжэй да дзейнасьці вышэйуспомненых беларускіх студэнскіх арганізацыяў, то пабачым, што галоўным пунктам іхняга заінтэрасаваньня была праца культурна-асьветнага характару, авееная глыбокім патрыётычным духам.

Бесканечная любоў Бацькаўшчыны, поўнае самаадданьне народнай справе вытварала ў іх маладых душах сьветлы оптымізм, поўны сонечных блескаў пагляд на будучыню.

Калі пераглядзець сяньня пажоўклыя старонкі гадавікоў „Нашае Нівы“, то знойдзем там поўныя запалу розныя артыкулы і „Пісьмы ў Рэдакцыю“ беларускіх студэнскіх арганізацыяў, гдзе выліваецца шчырая і бязінтэрэсоўная любоў беларускага народу, сьвятыя парывы да безгранічнае адданасьці.

Таксама прыгожыя і поўныя няўстрыманага запалу радкі першага студэнскага часопісу „Раніцы“ найбольш вымоўна сьведчуць аб гэтым, дзе між іншым чытаем:

> „...Шчасьліва ўсьміхнулася доля нашаму пакаленьню. Вывела нас яна на шырокі, прывольны сьвет, пад простыя праменьні сонейка, паклала ў нашыя істоты карані веды і праўды. Ці-ж не шчасьлівейшыя мы ад усіх тых пакаленьняў дзядоў і бацькоў нашых, што гнілі ў цемры і бросьні? Але забудзьмася аб цёмнай мінуўшчыне, годзі спамінаць нам нябошчыкаў і пэражытае ліха: яно прайшло і ня вернецца. Узьвесялімся цяперщчынай і глянь-ма ў чакаючую нас будучыню, вялікую і харошую“...

А далей узноў чытаем:

„Шчасна ўсьміхнулася доля нашаму пакаленьню, яна вывела тады нас на вежы народныя, калі яшчэ че занялася, але зараз займецца зара. Яна дала нам у рукі вугаль прароцтва і зельле апостальства і сказала: толькі навучыцеся спаляць ім людзкія сэрцы"...

У якім-ж творы пабачым больш поэзыі і жыцьцёвай мудрасьці, калі ня ў гэтых простых радкох, авееных натхнёным запалам патрыётызму маладой студэнскай душы. І гэта голас тых, якія крывавымі высілкамі і самаахвярнасьцю запачаткавалі беларускае адраджэньне, ускалыхнулі народным сумленьнем і такім спосабам прычыніліся да таго вялікага гістарычнага мамэнту, які і наш народ паклікаў да ўласнага творчага жыцьця. З пасярод гэтых маладых арлянят вышаў сяньня цэлы шэраг заслужаных і адказных працаўнікоў за вызваленьне Бацькаўшчыны, некаторыя з іх, праўда, зламаліся на духу, прадаўшы ўсё тое, што было ў іх чалавечае за высокія становішчы, многа такжа ў цяжкай і няроўнай барацьбе злажыла сваё жыцьцё на аўтар мілай для іх Бацькаўшчыны.

Да гэтых дарагіх нам ахвяраў трэба перадусім залічыць першых піонэраў беларускага руху і вялікіх мастакоў слова, якія і ў студэнскай галіне палажылі найвялікшыя заслугі, як Івана Луцкевіча, А. Цёткі, М. Багдановіча, Сяргея Полуяна і многа іншых.

Мамэнт заканчэньня сусьветнае вайны паклікаў узноў да жыцьця шырокія кадры беларускага студэнства і ўва ўсіх частках разьдзёртае Беларусі шпаркім тэмпам шырыцца беларускі студэнскі рух. Найбольшы лік беларускага студэнства знаходзіцца сяньня ў Радавай Беларусі, дзе існуе Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску, Сельска-Гаспадарская Акадэмія ў Горы-Горках, ды цэлы рад Інстытутаў і Тэхнікумаў, абыймаючых розныя паасобныя галіны веды. Таксама беларускае моладзі налічваецца на тысячы ў розных унівэрсытэцкіх цэнтрах Расеі, перадусім у Маскве і Петраградзе.

Агульна камуністычная сыстэма, якая там на Усходзе сілаю накідаецца ўсім праявам творчага жыцьця, у роўнай меры застаўоўваецца і да беларускай студэнскай моладзі, цалком запыняючы такім спосабам яўнае праяўленьне яе самастойнае грамадзкае думкі. Паміма аднак накіданых з верху супярэчных з вымогамі нашага жыцьця дырэктываў беларускае студэнства Ўсходняе Беларусі, за малымі выняткамі, захавала поўнасьцю беларускую душу, засталося вернае тым ідэалам, за якія змагаліся нашыя передваенныя папярэднікі. Доказам гэтага ёсьць між іншым той незамаскаваны беларускі нацыянальны дух, які мы бачым у паэтыцкай творчасьці прадстаўнікоў беларускага студэнства, а так-жа масавыя арышты і перасьледаваньні, якія адбываюцца там над беларускім студэнствам.

Другім асяродкам сучаснага беларускага студэнства ёсьць Заходняя Беларусь, а перадусім Вільня і іншыя нялічныя студэнскія згуртаваньні пры ўнівэрсытэцкіх цэнтрак Польшчы, з якіх перадусім выдзяляецца Варшава, дзе ёсьць значны лік беларускага студэнства.

У Вільні беларускае студэнства зарганізована ўжо ад 1920 г. і прымае чынны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Побач з іншымі галінамі студэнскае працы кладзецца вялікі націск на выдавецкую дзейнасьць. Тут ужо ў 1922 г. выходзе добра пастаўлены студэнскі месячнік „Наш Шлях“, а ад 1924 г. аж да апошняга чусу „Студэнская Думка“, якая, перадусім у апошні мамэнт, зьяўляецца агульным органам беларускага студэнства. Віленскае беларускае студэнства, будучае ў цэнтры беларускага грамадзкага жыцьця ў Заходняй Беларусі, вядзе шырокую грамадзкую працу так у лучнасьці з старэйшым грамадзянствам, як і незалежна ад яго.

З часткі Беларусі, уходзячае ў склад Латвійскае Рэспублікі, дзеля недагодных варункаў пастпаньня на латвійскі ўнівэрсытэт, беларуская моладзь у шуканьні вышшае асьветы ў большай частцы выяжджае ў Вільню і Прагу Чэскую, хаця ў апошнім часе пачала зявязвацца беларуская студэнская пляцоўка і ў Рызе.

Вялікі лік беларускай студэнскай моладзі, не знаходзячы магчымасьці вучыцца ў краі, выяжджае на некаторыя ўнівэрсытэты Заходняе Эўропы, перадусім у Прагу Чэскую. У Празе, дзякуючы спачываючым адносінам чэскага ўраду і грамадзянства да Беларусаў, за апошні час знайшлі сабе гасьцінны прыпынак некулькі сот беларускіх студэнтаў. Тут-жа ў Празе, а не ў краі, паўстала ў 1924 г. Цэнтраля беларускага студэнства — „Аб'еднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“ („АБСА“), якое патрапіла ў сабе злучыць усе паасобныя беларускія студэнскія арганізацыі дзеля супольнае працы на ніве беларускага адраджэньня. З асаблівых заслугаў беларускага студэнства ў Чэхаславаччыне на асаблівую ўвагу заслугоўвае яго міжнародная дзейнасьць, ведзеная ў розных кірунках, перадусім за пасярэдніцтвам „АБСА“, як нацыянальнай арганізацыі ўсяго беларускага студэнства. Найважнейшым здабыткам у гэтым кірунку, маючым сваё вялікае значэньне ня толькі для беларускага студэнскага руху, але і грамадзкага жыцьця наагул, ёсьць уваход беларускага студэнства пад фірмаю „АБСА“ у 1926 г. у склад „С.І.Е.“ („Міжнароднай Студэнскай Конфэдэрацыі“). Мамэнт уваходу беларускага студэнства ў „С.І.Е.“, гэтую т. зв. студэнскую лігу народаў, запачаткаваў новы пэрыяд у беларускім студэнскім руху, бо калі дагэтуль дзейнасьць беларускага студэнства зводзілася толькі да яго ўнутранае працы, то цяпер перад нашым студэнствам адкрыліся шырокія міжнародныя гарызонты. Дзякуючы належаньню да „С.І.Е.“ беларускае студэнства мае магчымасьць вясьці шырокае супрацоўніцтва, вымену думак з усім сьветам, а бяручы чыннае ўчасьце ў штогодніх конфэрэнцыях „С.І.Е.“, якія адбываюцца з кожным годам у іншай дзяржаве, мае беспасярэднюю лучнасьць з прадстаўнікамі студэнскае моладзі ўсіх народаў. Значэньне міжнароднай дзейнасьці беларускага студэнства ўзрастае яшчэ ў зьвязку з тым, што пры сучасных ненармальных варунках беларускага грамадзкага жыцьця, калі з усіх галінаў грамадзкае дзейнасьці, найбольш занядбаная галіна лучнасьці з чужынай, то якраз беларускае студэнства лучнасьць гэту у поўнай меры адваявала. Такім чынам беларускае студэнства ў Чэхасла-

ваччыне, дзякуючы сваей умелай і вытрыманай працы, прынесла неаблічаныя заслугі для беларускага студэнскага жыцьця наагул.

Робячы агульныя ўвагі адносна беларускага сучаснага студэнства, трэба аднак прызнаць, што тая ідэйнасьць і самаахвярнасьць, як гэта мы спасьцярагалі ў дзейнасьці беларускага студэнства даваеннае пары, сяньня значна аслабла, а на ўзьверх студэнскіх паглядаў выплыў шэры штодзенны рэалізм жыцьця, зьменшылася ініцыятыва і значна апаў той вечна жывы і творчы малады дух, які быў уласьцівы даваеннаму студэнству. Брак глыбокіх ідэйных падкладаў у душы сяньняшняе студэнскае моладзі выклікае між іншым і тое, што слабейшыя з іх ня вытрымліваюць на сваіх становішчах, а апускаюцца на дно горкага пэсымізму, ці гоняцца сьлепа за асабістай кар'ерай.

Паміма некаторых ад'емных бакоў сучаснага беларускага студэнства, будучых уласьцівасьцямі паваеннай псыхікі наагул, заўважваюцца таксама вялікія мамэнты дадатнія. Беларускае студэнства, ня ўпрыклад старэйшаму грамадзянству, так ненатуральна падзеленаму на варожыя ўзаемна сабе лагеры, захавала да апошняга часу адзіны супольны кірунак грамадзкае думкі, абапёрты на рэальных і творчых падставах. У зьвязку з сучасным крытычным мамэнтам у беларускім руху, будучым вытварам так вонкавых, як і ўнутраных, нашых уласных дзейнікаў, у грамадзкіх паглядах беларускага студэнства творыцца новая, больш рэальная канцэпцыя грамадзкае працы, прыстасаваная да сучасных вымогаў жыцьця. Таксама сярод студэнскае моладзі пануе глыбокі беларускі дух і ўсьведамленьне таго высокага народнаграмадзкага абавязку, які гаворыць, што для нас на першым пляне зьяўляецца Беларусь, а потым усё іншае.

Дзеля гэтага маем поўнае права і сяньня сказаць, што беларускае студэнства, ад самага пачатку свайго разьвіцьця аж да сучасных дзён, паміма вялікіх перашкодаў і няўдачаў, з кожным днём ахвярна ўкладае па аднэй цаглінцы пад фундамант будучага гмаху — Вольнай, Злучанай і Незалежнай Беларусі.

---

* *

Насталі цудоўныя ночы —
У сэрцы спакойна ізноў.
І жмурацца вечарам вочы
На сьвет сінядымных вагнёў.

Каб мог, я-б, рукою махнуўшы,
Спыніў места вулачны рух...
І сэрцы—як лебедзь заснуўшы,
Грымуча і гулка наўкруг.
1930 г. **Хв. Ільляшэвіч.**



ЦЯПЕРАШНІ УРАД „АБ'ЕДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯУ" („АБСА"):

Стаяць: Ст. Санкевіч — эканамічны рэфэрэнт, А. Вітушка — рэфэрэнт Міжнародных зносінаў, інж. Л. Гірус — сэкрэтар; сядзяць: А. Бартуль— прэсавы рэфэрэнт, інж. В. Лаўскі — старшыня, др. Т. Грыб — віцэ-старшыня. (Спартовага рэфэрэнта М. Шкялёнка няма на фатаграфіі, які ў той час ня быў прысутны ў Празе).

# Даклад дэлегацыі „Аб‘еднаньня Бел. Студ. Арганізацыяў“ аб XII-тым міжнародным студэнскім Кангрэсе ў Бруксэлі

*ад 12-га да 26-га жніўня 1930 г.*

Сёлетні чародны XII-ты Кангрэс „С.І.Е.“, наладжаны Бэльгійскім Нацыянальным Студэнскім Саюзам, пад пратэктаратам каранаванага Прынца Леопольда, у зьвязку са сьняткаваньнем 100-дзя незалежнасьці Бэльгійскага Каралеўства.

Дня 13-га жніўня г. г. быў урачыста адчынены Кангрэс Старшынёю „С.І.Е.“ калегаю П. Саўрынам (француз) у вялікай аўлі Бельгійскае Акадэміі, у прысутнасьці: прадстаўнікоў вышэйшых бэльгійскіх школаў — рэктараў, дзеканаў, міністраў і высокіх урадоўцаў Бэльгійскага Каралеўства, прадстаўнікоў розных фахова-прамысловых і грамадзкіх арганізацыяў, прадстаўнікоў Лігі Нацыяў і мнагалікай дэлегацыі студэнскіх арганізацыяў, што відаць з ліку дэлегатаў, якія афіцыяльна прыймалі чынны ўдзел у працы Кангрэсу.

ЛІК СТУДЭНТАЎ І ІХ ДЭЛЕГАТАЎ КОЖНАЕ НАРОДНАСЬЦІ

Запраўдныя сябры „С. І. Е.“:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Англія . . | 26,055 | студ., | 10 | дэл. | Люксэмбург | 650 | студ , | 4 | дэл. |
| Афрыка п. . | 6,000 | „ | 4 | „ | Мэксыка . | 3,500 | „ | 1 | „ |
| Бэльгія . . | 7,646 | „ | 10 | „ | Польшча . | 30,500 | „ | 10 | „ |
| Балівія . . | 1,500 | „ | 4 | „ | Румынія . . | 28,000 | „ | 10 | „ |
| Баўгарыя . | 4,280 | „ | 4 | „ | Турцыя . . | 3,000 | „ | 3 | „ |
| Вэнгрыя . . | 15,983 | „ | 7 | „ | Фінляндыя . | 6,709 | „ | 3 | „ |
| Галяндыя . | 5,741 | „ | 8 | „ | Швайцарыя | 7,000 | „ | 6 | „ |
| Данія . . | 6,539 | „ | 5 | „ | Францыя . | 41,000 | „ | 7 | „ |
| Злучаныя Ш. | 410,000 | „ | 7 | „ | Швэцыя . | 9,900 | „ | 3 | „ |
| Італія . . | 35,000 | „ | 8 | „ | Шкоцыя . | 10,000 | „ | 5 | „ |
| Латвія . . | 7,800 | „ | 1 | „ | Эстонія . . | 3,936 | „ | 1 | „ |
| Літва . . . | 4,000 | „ | 1 | „ | Югаславія . | 10,732 | „ | 2 | „ |

Чэхаславаччына . 14,600 студ., 10 дэлег.

Вольныя сябры:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Беларусь . . . . | 540 | студ., | 2 | дэл. |
| Расейская эміграцыя | 7,000 | „ | 1 | „ |
| Украіна . . . . . | 4,300 | „ | 2 | „ |

Апрача афіцыяльных дэлегатаў было яшчэ шмат студэнскае моладзі ў характары абсэрватараў.

Пасьля ўрачыстых прамоваў і пажаданьняў Кангрэсу пасьпеху ў ягонай працы, на другі дзень прыступлена да выкананьня праграмы Кангрэсу.

Праца Кангрэсу была падзелена на 6 наступных камісіяў:
I-я камісія: арганізацыя „С.I.Е.“ і прапаганда,
II-я „ навукова-акадэмічныя пытаньні, кіна, музэй і г. п.
III-я „ міжнародныя зносіны, падарожжа і вандроўкі,
IV-я „ фінансавая справа,
V-я „ міжнародная студэнская ўзаемадапамога,
VI-я „ спорт.

Галоўныя пункты працы, зьвязаныя з першай камісіяй, былі наступныя:

1. Справа фламандзкіх студэнтаў,
2. „ гішпанскіх студэнтаў,
3. „ нямецкіх студэнтаў,
4. „ харвацкіх і македонскіх студэнтаў,
5. Даклады прадстаўнікоў паасобных студ. нац. арганізац.

I. Фламандзкая нацыянальная студэнская арганізацыя („Vlaamche Hoogstudenten Verband“) просіць Камітэт „С.I.Е.“ прыняці іх у лік пачэсных сяброў (membres Titulaires), апіраючы сваю просьбу на тым, што інтарэсы фламандзкіх студэнтаў мала бароняцца Бэльгійскім Нацыянальным Студэнскім Саюзам, які ня толькі не падтрымоўвае нацыянальны рух фламандзкіх студэнтаў, але наадварот, перашкаджае ім у гэтым і, што большасьць фламандзкіх студэнтаў належыць да свайго нацыянальнага саюзу. Пасьля дакладаў і доўгіх спрэчак было зроблена некалькі прапаноў, у які спосаб мае разглядацца гэтае пытаньне; — адкрытым галасаваньнем была прынята прапазыцыя бэльгійскага студэнства, зьняць гэтае пытаньне зусім з парадку Кангрэсу.

2. Каталіцкае гішпанскае студэнства, якое да гэтага часу рэпрээнтавала ўсё гішпанскае студэнства, дабравольна ўступіла сваё мейсца лібэральнай партыі.

3. Нямецкае пытаньне, якое ўжо разглядаецца некалькі гадоў і ня можа быці разьвязана: гэта ёсьць уступ нямецкіх студэнскіх арганізацыяў у „С.I.Е.“ чынным сябрам, бо да гэтага часу ўваходзіла („Deutsche Studentenschaft“), як супрацоўнічы сябра, (associat. collaboration) зьяўляецца найлічнейшай студэнскай арганізацыяй, носячы палітычны характар, ня можа пагадзіцца з некаторымі паглядамі С.I.Е. Другою перашкодаю ўступу нямецкага студанства ў С.I.Е. было непаразуменьне паміж сабою іншых нямецкіх студэнскіх арганізацыяў, якія знайходзяцца ў Нямеччыне, Польшчы і Чэхаславаччыне. Вось прычыны чаму і сёлета ня было вырашана гэтае пытаньне.

4. Справа харвацкага і македонскага студэнства, аб прыняцьці іх у лік вольных сяброў С.I.Е. бо будучы нацыянальнай меншасьцю ў краі, рэпрээнтаваліся дэлегатамі пануючых нацыяў у гэнай дзяржаве.

Харвацкая студэнская арганізацыя заграніцай, выслала на XII-ты Кангрэс двух дэлегатаў, якія меліся ўнесьці свой мэмарандум у „С.I.Е.“. Па чуткам, пасьля некалькі-дзеннага пабыту іх у Бэльгіі, змушаны былі ўладаю пакінуці Бэльгійскае Каралеўства, як непажаданыя асо-

бы. У выніку гэтага Цэнтральны Камітэт ,,С.І.Е.“ атрымаў тэлеграму ад замежнага Цэнтр. Харвацкага Студ. Саюзу—просьбу не разглядаці іхнага мэмарандуму ў адсутнасьці іх. Такім чынам уступ харвацкага студэнства ў „С.І.Е.“ зусім не разглядаўся.

Засталася справа македонскага студэнства, якая заняла шмат часу закранаючы важныя і цікавыя пытаньні.

Македонскае студэнства рэпрэзэнтуецца „Пабрацімствам“ („Нацыянальны Саюз Югаславянскіх Студэнтаў“), якое дамагаецца прыняцьця іх у лік вольных сяброў „С.І.Е.“, апіраючыся на тыя непаразуменьні паміж імі і сэрбскімі студэнтамі, і на крыўды, учыняныя ім праз сэрбскі Ўрад.

Пры такіх абставінах іхныя справы ня могуць быць бароняныя „Пабрацімствам“, якое іх рэпрэзэнтуе, а так сама ня можа іх заступаці яшчэ з тых прычынаў, што вялікая частка македонскіх студэнтаў вучыцца за межамі, як вынік гэтакіх адносінаў. „С.І.Е.“ бяручы ўсё гэтае пад увагу, яшчэ раней выслала свайго дэлегата ў Югаславію, каб на мейсцы разглянуў гэную квэстыю. Цяпер-жа на Кангрэсе з дакладу гэнага дэлегата было відаць, што македонскае студэнства, ня маючы на гэта важкіх аргумэнтаў, сыстэматычна робіцца сябрам „Пабрацімства“, якое мае права яго рэпрэзэнтаваці.

Некаторымі дэлегатамі быў зроблены пратэст прыняцьцю Саюзу Македонскіх Студэнскіх Арганізацыяў, як вольнага сябра, даводзячы, што такая нацыя не істнуе, а ёсьць толькі кааліцыя рожных народаў, як: баўгараў, туркаў, албанцаў, што спавадавала вялікае абурэньне ў салі паседжаньня, закранаючы пытаньні іншых нацыяў, ці істнуюць яны так сама, як напр. югаславянская і г. п.

Вялікі непарадак і спрэчкі перарвалі паседжаньне на некалькі хвілін і па наступіўшым парадку была зроблена прапанова-неадхіляцца ад галоўнае тэмы; пасьля чаго баўгарскім дэлэгатам былі высьвятляныя тыя цяжкія варункі, у якіх знайходзіцца македонскае студэнства, падкрэсьліваючы, што даклад дэлегата „С.І.Е.“ быў зроблены, паводле афіцыяльных вестак Сэрбскага Ўраду, ня маючы магчымасьці глыбей разабрацца ў істоце рэчы: а дзеля гэтага баўгарскі дэлегат заклікае ўсіх сяброў С.І Е.“, выступіць у абарону македонскага студэнства і прыняці іх у лік вольных сяброў у ,,С.І.Е.“. Наадварот — другія прадстаўнікі ў сваіх прамовах, адкідаючы ўсе правы нацыянальных меншасьцяў, кіруючыся тым, што кожная дзяржава мае свае меншасьці, якія-бы пачалі тварыцца ў нацыянальныя адзінкі ў кожнай дзяржаве, а будучы прызнаныя і прынятыя ў ,,С.І.Е.“, то ў хуткім часе зьявілася-бы шмат актуальных пытаньняў палітычнага характару, што было-бы скіравана да падзелу дзяржаваў; бо прызнаньне тае ці іншае нацыянальнае арганізацыі сусьветным студэнствам, магло-бы выклікаць у блізкай будучыне прызнаньня самастойнасьці гэтай-жа нацыі. Дзякуючы такой тэме, болівійская дэлегацыя закранула пываньне, на якіх падставах студэнты расейскае эміграцыі ,,О.Р.Э.С.О.“ (Об'єдіненіе Русскіх Эмігрантскіх Студенческіх Организацый), беларусы і ўкраінцы ўвайходзяць, як вольныя сябры, у „С.І.Е.“. Для высьвятленьня гэтага ўзялі голас ангельская і іншыя дэлегацыі. У сваіх

паясьненьнях падкрэсьліваюць, што „О.Р.Э.С.О.“ уваходзіць у „С.І.Е.“, як вольны сябра, дзеля таго, што студэнства Радавае Расеі не належыць да гэнае арганізацыі і, што з часам, калі студэнства Радавае Расеі ўвойдзе ў „С.І.Е“, то „О.Р.Э.С.О.“ павінна будзе выступіць. Інакшая справа ёсьць з беларускім і ўкраінскім пытаньнямі, якія ёсьць зусім зразумелымі, бо Беларусы і Ўкраінцы зьяўляюцца прадстаўнікамі пэўных нацыяў, якія ў сучасны мамэнт ня маюць незалежнае дзяржавы, але маюць поўнае права яе мецi. Па доўгіх прамовах македонскія дэлегаты, бачучы немагчымасьць быці прынятымі ў лік вольных сяброў, просяць залічыць іх у характары (Membre associe) зьеднаючага сябры, але навет і гэтая апошняя іхная просьба была адкінутая. Для поўнае вобразнасьці міжнародных адносінаў і думак дэлегатаў Кангрэсу можа служыць прыклад галасаваньня ў апошняй справе.*)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Англія | x | Злучаныя Штаты | x | Турцыя | устр. |
| Афрыка Паўдзён. | x | Італія | x | Фінляндыя | -- |
| Бельгія | -- | Латвія | устр. | Францыя | -- |
| Балівія | x | Літва | устр. | Швайцарыя | -- |
| Баўгарыя | x | Люксэмбург | -- | Швэцыя | x |
| Вэнгрыя | x | Мэксыка | -- | Шкоцыя | x |
| Голяндыя | устр. | Польшча | -- | Чэхаславацыя | -- |
| Данія | x | Румынія | -- | Эстонія | -- |
| | | | | Югаславія | -- |

Па развязаньні некаторых пытаньняў меншае важнасьці, былі зробленыя даклады прадстаўнікамі нацыянальных студ. арганізацыяў аб жыцьці і дзейнасьці іхнага студэнства, таксама быў зроблены даклад і дэлэгацыяй беларускага студэнства.

II. Працаю другой камісыі зьяўляўся разгляд пытаньняў навукова-акадэмічнага характару: стварэньне Міжнароднага Студэнскага Музэю ў Празе, кіна, наладжаньне Кангрэсу юрыстаў, які адбыўся аднначасова з Кангрэсам „С.І.Е.“ у Бруксэлі.

III. Трэцяя камісія разглядала міжнародныя студэнскія зносіны і пытаньні аб вандроўках. Агаворывалася справа наладжаньня лучнасьці паміж студэнскімі арганізацыямі і аб палепшаньні варункаў падарожжа (атрыманьне візаў, зьніжкаў і г. п.). Былі зробленыя даклады аб падарожжах сяброў „С.І.Е.“ у рожныя краі новага і старога сьвету.

IV. На фінансавай камісіі, скарбнік „С. І. Е.“ даў справаздачу аб грашовым стане „С.І.Е.“ Большаю часткаю прыбытку ёсьць сяброўскія складкі, напрыклад: ад 21-га XII. 1929 г. да 21. VII. 1930 г. уплыло сяброўскіх складак на суму 754039 Швайц. франкаў. Прыблізна падрахаваны буджэт на 1931 год — 13,472,65 Швайц. франкаў. Сяброўскія-ж складкі ўносяцца студэнскімі арганізацыямі прапорцыянальна ліку іх сяброў.

---

*) x за, -- проці, устр.=устрымаліся.

V. Міжнародная студэнская самадапамога і студэнская санаторыя. Галоўная праца гэнай камісіі была скірованая на стварэньне Інстытуту Акадэмічнай Узаемадапамогі (L'institut de l'entr'aide Universitaire Internationale), адносна чаго адбыўся Кангрэс у Варшаве ў днях 14—19 ліпня г. г.

VI. Камісія спартовая. На гэнай камісыі разглядаліся пытаньні міжнароднага спорту і яго разьвіцьця ў паасобных народаў; наладжваньня злётаў і олімпіядаў у міжнародным маштабе. Тут-жа былі зробленыя даклады прадстаўнікоў паасобных студэнскіх арганізацыяў.

На славянскай камісыі была вызначана на гэты акадэмічны год баўгарская мова.

25-га жніўня адбылосе апошняе паседжаньне XII-га Кангрэсу „С.I.E.", вызначаючы наступны, чародны Кангрэс на жнівень у Букарэшце.

Апрача афіцыяльнае працы на Кангрэсе, для вучасьнікаў былі дадзеныя банкеты, вечарыны, наладжаныя экскурсыі ў галоўнейшыя гарады Бэльгіі, гдзе ў зьвязку са сьвяткаваньнем 100-годзьдзя незалежнасьці, адбываліся гістарычныя картэжы і былі наведаныя міжнародныя выстаўкі ў Льежы і Антвэрпэне.

Праца дэлегатаў беларускага студэнства была зьвернутая галоўна на прапаганду і азнаямленьня вучасьнікаў кангрэсу, ня толькі аб жыцьці, працы і яе варунках, становішчы, ідэолёгіі і імкненьнях беларускага студэнства, але таксама аб беларускім народзе і аб усім тым, што з ім зьвязана. Беларуская дэлегацыя прыймала ўдзел у працах 1, 3, 5 і 6 камісіях, у якіх, апрача 5-ай, былі зробленыя даклады. У першую камісію ад імя „АБСА" дэлегат даў кароткі нарыс галоўнае працы „АБСА" і другіх беларускіх студэнскіх арганізацыяў, малюючы тыя цяжкія варункі жыцьця беларускага студэнта, культурна-палітычны ўціск нашага народу, падзел нашае Бацькаўшчыны, сумны факт гістарычных падзеяў. Жыцьцё беларускага студэнства, якое ня маючы магчымасьці атрымаць вышэйшую адукацыю на Бацькаўшчыне, змушаная здабываць сабе навуку заграніцаю, а па сканчэньні вышэйшых школаў, спатыкаюць яго перашкоды пры павароце на Бацькаўшчыну і нострыфікацыя дыплёмаў. Маемо надзею, што вышэй успомненыя справы, дзякуючы дапамозе „CIE", будуць уладжаныя для нас спрыяюча. Не зьвяртаючы на тыя ліхія абставіны і перашкоды, беларускі студэнт цьвёрда трымаючыся свае ідэолегіі, у хуткай будучыні дасягне свае мэты.

Пасьля гэнага дакладу паўстала яшчэ большая зацікаўленасьць паміж дэлегатамі, якія да гэтага часу былі мала знаёмыя з нашым культурным і духовым жыцьцём, просячы літэратуры і інфармацыяў у гэных напрамках. На вялікі сум, беларускія дэлегаты ня маючы з сабою інфармацыйнае літэратуры, ані часопісаў, былі змушаныя задавальняць зацікаўленых толькі вуснымі інфармацыямі. Як у той час іншыя прадстаўнікі, дзякуючы непароўнана лепшаму матэрыяльнаму становішчу, будучы падтрымленыя грамадзянствам і сваім урадам, мелі з сабою прапагандную літэратуру, багатую па колькасьці і зьместу.

На трэцяй камісіі ў сваім дакладзе, „АБСА“ дзякуе кіраўніцтву гэнай камісіі за тыя ахвотныя інфармацыі і запросіны беларускаму студэнству прыняць удзел у яе працы і адначасна падкрэсьлівае, што з прычыны тых цяжкіх варункаў і дрэннаму матэрыяльнаму становішчу, пакуль-што ня можа вясьці сваю працу ў гэным кірунку больш інтэнсыўна, каб магло супольна з другімі народамі займаць у гэным кірунку адпаведнае мейсца. Таксама цяпер немагчыма думаць аб сусьветных вандроўках.

Далей дакладаецца справа пашырэньня міжнародных студэнскіх легітымацыяў „CIE“ урадам „АБСА“ паміж беларускім студэнствам.

У спартовай камісіі пры дакладзе ізноў падкрэсьліваюцца неспрыяючыя варункі, якія не даюць магчымасьці, у сёлета заложаным спартовым аддзеле „АБСА“ ў Вільні, весьці працу ў адпаведным размеры, але ў блізкай будучыне, ня гледзячы на гэта, пойдзе па адпаведным торы.

Усе даклады беларускае дэлегацыі былі выслуханыя з зацікаўленьнем і прынятыя прыхільна.

У часе пабыту беларускае дэлегацыі ў Бэльгіі быў заложаны Гурток Беларускіх Студэнтаў у Бэльгіі.

Немагчыма змоўчаць аб тых сяброўскіх адносінах некаторых вучасьнікаў Кангрэсу да беларускіх дэлегатаў, на што ўрад „АБСА“ ня можа не зьвярнуць увагі, не падзякаваўшы ім.

Канчаючы гэты даклад, трэба зьвярнуць увагу на тыя недахопы, якія ў будучыні ня мелі-бы мейсца: а) непадрыхтоўка дэлегатаў да Кангрэсу, б) адсутнасьць матэрыяльных сродкаў, в) адсутнасьць нацыянальнае інфармацыйнае літэратуры, г) адсутнасьць тых паважных адносінаў старшага нашага грамадзянства да студэнскае справы, якая ёсьць агульнаю справаю і дабрабытам нашага народу, да чаго мусіць імкнуцца кожны Беларус, ня гледзячы на ніякія асабістыя погляды.

Пакуль-што складаецца падзяка ўсім Тым, Хто хоць троха прычыніўся да палягчэньня гэтае нялёгкае працы.

*Дэлегацыя Аб'еднаньня*
*Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў*
*на XII Кангрэс «CIE».*

Бруксэль, жнівень 1930 год.

Я. ЗЯНЮК.

# Па поваду Сьвяткаваньня Вітаўтавага Юбілею.

27 кастрычніка г. г. беларускае грамадзянства побач з літоўскім сьвяткавала ўрачыста 500 гадавіну сьмерці В. Кн. Вітаўта. На адумысна ў чэсьць Вітаўта ладжанай літоўска-беларускім камітэтам акадэміі было прачытана рад рэфэратаў у літоўскай і беларускай мовах. Акадэмію папярэдзілі набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая і адкрыцьцё памятніка Вітаўту ў тым-жа касьцеле. З прачытаных рэфэратаў асабліва глыбока і ўсебакова апрацованым па зьместу, а прыгожым па форме быў рэфэрат кс. Ад. Станкевіча.

Памяць асобы В. Кн. Вітаўта, ягоныя гістарычныя заслугі аднолькава дарагія, так для беларусаў, як і літвіноў. А ўглыбляючыся ў эпоху, на фоне якой дзеяў Вітаўт, разглядаючы і ацэніваючы Вітаўта, як зьбіральніка беларускіх этнографічных земляў, з якіх адыйсьці не хацеў, нават калі яму аддавалі чэскую карону, дый тое, што ахватней аддаваў крыжакам Жамойдзкае Князьства, а не беларускую Полаччыну, скажамо, што дзейнасьць яго ішла перш за ўсё па лініі інтарэсаў дзяржаўных беларускіх. Бо беларускі элемэнт культурна і лічэбна ў Вялікім Князьстве Літоўска-Беларускім пераважаў. Гэткія разважаньні аб слаўнай нашай мінуўшчыне пэўна выклікаюць у нас сум, калі ўгледзімся ў нашую сучаснасьць. Але яны не павінны засугэровываць нас да той ступені, каб мы нават у нязгодзе з гістарычнай праўдай прызнавалі валікую вагу літоўскаму элемэнту ў тагочаснай Вітаўтавай дзяржаве. Там была праўдзівая, натуральная сымбіоза беларускіх культурных цэннасьцяў з арганізацыйнымі літоўскімі.

Ня буду разпісывацца аб значэньні Вітаўта для народаў засяляючых колішняе В Кн. Літоўска-Беларускае, аб ім самым, як вялікай гістарычнай адзінцы, цікаўных адсылаю да рэфэрату кс. Ад. Станкевіча*). Даволі сказаці, што Вітаўт належыць да тых рэдкіх гістарычных постацяў, якія ня ўміраюць на пажоўклых лістох летапісяў. Чым далей мы адыходзім ад тых гістарычных падзеяў, на фоне якіх асоба Вітаўта лунае жывымі краскамі, тым шырэйшыя кругазоры дзейнасьці, плянаў, намераў і імкненьняў Вітаўтавых адкрываем. Сягоньня з пяцівяковае пэрспэктывы гожа адцеміць, што ня было ў той час такой думкі, ці то ў галіне палітычнага ці эканамічнага, грамадзкага ці рэлігійнага жыцьця гаспадарства беларуска-літоўскага, якая была-б чужой Вітаўту. Шмат што прадбачыў Вітаўт і ў шмат чым папярэдзіў сваю эпоху.

А слава і веліч Вітаўта не ў вялікіх заваяваньнях, дзякуючы якім Літва глядзіць на шырокі сьвет праз два вялізарныя вокны, бо граніцы свае апірае на поўначы на узбярэжжа мора Балтыцкага, а на поўдню на ўзбярэжжа Чорнага. Гэтыя граніцы на поўначы і на поўд-

*) Пажадана было-б, каб літоўска-беларускі камітэт, які ладзіў юбілей Вітаўта выдаў зачытаныя на акадэміі рэфэраты друкам. — Я. З.

ню, а Буг і Нарву на захадзе, Ака на ўсходзе выцярабілі Літве папярэднікі Вітаўта.

На долю Вітаўта прыпадае далучэньне Смаленшчыны, і сцэмэнтаваньне вялікага абшарам (900,000 — 1,000,000 км²) гаспадарства. Па далучэньні Смаленшчыны ўсе этнографічна беларускія землі знайшліся ў гаспадарстве Вітаўта. Вітаўту прыпадае вырашыць справу небясьпекі пагражаючай з боку татараў і крыжацкія справы. У сувязі з татарскімі справамі Вітаўт носіцца з грандзіозным плянам разьбіцьця татараў і заваяваньня Маскоўшчыны. Вялікім плянам Вітаўта ня суджана было ужыцьцявіцца. Няўданая бітва ля Ворсклы пакрыжавала пляны Вітаўта і ён ужо пасьля да іх не вяртаўся. За тое справы крыжацкія ўдалося вырашыць Вітаўтупа мысна. Пад Грунвальдам у 1410 г. ён з беларускімі, літоўскімі, татарскімі, чэскімі і польскімі войскамі разграміў крыжацкі ордэн, якому на падмогу прышло шмат рыцараў з Захаду. Нямецкая небясьпека ад таго часу перастала існаваць. Але веліч Вітаўтава заключаецца яшчэ ў адным.

Народ, так як і паасобная адзінка, мусіць мець сваю ідэю. Ня толькі матэрыяльны быт, — але і духовае жыцьцё перш за ўсё сьведчыць аб істнаваньні данага народу.

Вітаўт якраз выкрасаў ідэю для народаў засяляючых абшары В. Кн. Літ.-Бел., для народаў: беларускага, літоўскага і ўкраінскага. Сьцяг Пагоні горда павяваў над галовамі гэтых народаў — і сьведчыў аб іх дамаганьні жыць самастойным жыцьцём ува ўласным краі. Ідэю незалежнасьці, якую Вітаўт выкрасаў у сьведамасьці народаў беларускага, літоўскага і ўкраінскага, ён астаўся верным цэлае жыцьцё. Пад канец свайго панаваньня Вітаўт хоча праз сваю коронацыю сьцьвердзіць формальна той фактычны стан, які істнаваў у В. Кн. Літоўска-Беларускім. Але дзякуючы інтрыгам ворагаў Вітаўтавых — на сваю галаву Вітаўт кароны не ўзлажыў. Аб тым, якой пашанай цешыўся Вітаўт у тагачасным культурным сьвеце сьведчаць імёны гасьцяў, якія зьехаліся ў Луцк на каранацыйны зьезд. Былі там: кароль польскі Ягайла, цэсар рымскі, Вялікі Кн. Маскоўскі Васілі, кароль вугорскі з каралевою, князь вял. Тверскі, містры Прускі і Інфляндзкі і шмат іншых знамянітых госьцяў на зьезд каранацыйны ў Луцк прыехалі.

Аб факце няўдачы каранацыі кажа летапісец наступнае: „И будучы ему у Великом Луцку и хотѣл был на себе коруну взложыти, ино непрыятели яго Полякі того ему не допустили коруны узложыти“.

Што выбар шляхоў, якія-б вялі народы беларускі, літоўскі і ўкраінскі да цьвітучага развою, а якія гварантавалі-б В. Кн. Літ.-Бел. слаўную дзяржаўную будучыню былі правідловыя, паказала мінуўшчына і паказвае сучаснасьць. Гэтыя шляхі стаяць і сягоньня перад намі. Па іх нам ісьці трэба, каб асягнуць самастойнасьць, за якую так моцна стаяў Вітаўт. А выбар шляхоў, якія асталіся правідловымі, і якія вядуць проста да мэты, памінаючы пяцівяковы перарыў, які нас дзеліць ад сьмерці Вітаўта, сьведчыць аб вялікім палітычным розуме Князя. Тут веліч Вітаўта Сягоньня мы вяртаемся да эпохі Вітаўта, слаўнай так для нашага дзяржаўнага пачуцьця, для беларускае куль-

туры, каб стуль чэрпаць натхненьне да далейшае працы. Углыбляючыся і ацэніваючы дзейнасьць Вітаўта прыходзім да пераконаньня, што заданьнем нашым павінна быць — зьвязаць працу і нашыя імкненьні з спадчынай Вітаўта, з ягонымі чынамі, так, каб засыпаўшы пяцівяковую прорву, усе злыбеды і памылкі, сягоньняшняя нашая праца і імкненьні былі контынуацыяй дзяржаўнатворчае працы Вітаўта.

Заданьне далёка ня лёгкае; яно часта перарастае нашыя сучасныя магчымасьці. Але апрача сьвету матэрыяльнае творчасьці, як было сказана, ёсьць сьвет ідэяў. Ён ня менш важную ролю адыгрывае ў жыцьці народаў, бо народ — дзяржаву можна пазбавіць фізычнага жыцьця, тады ён жыве ідэяй, а паміpae толькі тады, калі загубіць ідэю, калі вораг здоляе ідэю вырваць, прышчапіць чужую Вітаўт вытвараў у сьведамасьці народаў ідэю незалежнасьці. Шмат вяковая палітычная няволя не змагла зглуміць у сьведамасьці і беларускага народу ягонае ідэі. Народ сьцеражэ яе, як найдаражэйшы скарб, а перад творцамі вялікіх, жыватворчых ідэяў пакорна хіліць галаву.

---

Летапісец Вялікага Князьства Літоўскага і Жамойцкага гэткімі словамі пачынае „Пахвалу Великаму Князю Витовту“: „Княз великии Витовт держал Князство Литовское и Руское и иные многие земли“. Шмат дзе летапісцы на азначэньне гаспадарства Вітаўта ўжываюць тэрмін — Літва Што абазначае гэты тэрмін, які зьмест ягоны? Ёсьць тэндэнцыя комэнтаваць гэты тэрмін даслоўна і прыпісываць галоўную творчую ролю ў дзяржаўным жыцьці В. Кн. Літоўскага літоўскаму элемэнту. Такая інтэрпрэтацыя нашае старыны, гісторыі вельмі прымітыўная. Яна будучы сама гістарычным фальшам, уводзіць у жыцьцё народаў засяляючых колішняе В. Кн. Літ.-Бел. не патрэбныя нікому непаразуменьні, — няшчырасьць у міжнацыянальныя адносіны. Ніхто з Беларусаў ня будзе сягоньня даказываць, што Вітаўт быў выключна беларускім гаспадаром, але тым меншае права маюць на такія доказы другія. Для ўсіх ясна, што дзейнасьць Вітаўта ішла перш за ўсё па лініі інтарэсаў дзяржаўных і нацыянальных беларускага народу. Але вернемся да самога тэрміну — „Літва“.

Летапісец пад 1239 г. піша „...Яраслаў Усеваладавіч Суздальскі хадзіў к Смаленску на Літву, Літву перамог і князя іх захапіў і пасадзіў у Смаленск князя Усевалод Мстіславіча“. Літапісец В. Кн. Літоўскага і Жамойцкага ў адным месцы кажа „...тагож лѣта прышла саранча на Лядскую землю и на Литовскую около Берастия и около Мѣнска, и Свержна и Коиданава, Ивенца и около Вильни...“ У кнізе выданай у Базылеі пад наз. „De gentium moribus“ Joannis Boemi, Basiliae 1528 у стацьці „Аб Літв. і жыцьці Літвіноў“ чытаем, „...мова гэтага народу славянская, падобная да польскай. Гэта славянская мова вельмі пашырана і ёю гаворaць многія народы...“

З вышэй пададзенага бачым, што Смаленск, Менск, Вільня, Берасьце і інш. абхоплены тэрмінам „Літва“, адным словам Літва абхапляе ўсю этнографічную Беларусь, а мова гэтага народу (які засяляе Літву) славянская! Ці-ж трэба іншых, лепшых доказаў? Пашырэньне

тэрміну Літва на этнографічна беларускія землі тлумачыцца наступным. Дынастыя Гэдыміна выходзіць з этнографічнае Літвы з князьства Жамойцкага. Гэдымін і ягоныя наступнікі Кейстут і Альгерд здабываючы рускія землі, прыносяць з сабой дзяржаўны тэрмін. Што тэрмін гэты неадпавядае нацыянальнаму складу народаў іх зямель, не падлягае сумліву. Дый наагул Гэдымінавічы, калі ўжо ня браць пад увагу агульна культурных варункаў у той час, былі моцна збеларушчанымі праз жанімствы з беларускімі князёўнамі. Штосьці падобнае, толькі з іншых прычынаў, як тэрмін Літва, на азначэньні беларускіх зямель, істнуе ў польскай мове, дзе для Італіі ёсьць назоў „Włochy“.

Урэшце, што найважнейшае, той культурны падклад, на якім даконываюцца пераабражэньні Вял. Кн. Літ. за Альгерда, Кейстута, а Вітаўта асабліва. Беларуская мова далёка перад уніяй Літвы з Польшчай была мовай найбольш асьвечаных тады слаёў грамадзянства, г. зн. баяраў і князёўскіх двароў. Беларуская мова была мовай урадавых актаў і вялікакнязёўскага двара. На колькі яна тады ўжо была выраблена сьведчыць уплыў яе на польскую мову, уплыў, якога не адкідае знамяніты польскі пісьменнік і гісторык Крашэўскі, кажучы „Ważną epokę w dziejach języka (польскага) stanowi złączenie Litwy i Rusi z Polską, za Władysława Jagiełły. Z tym prawie czasem w języku ludu ustaje, trwający od X w. wpływ bezpośredni Niemców i Czechów, a nastaje Ruski. Stosunki na wschód otwierają się, dwór mówi po Rusku, język ten staje się pośrednikiem między Litwą, a Polską. Jego (Александра) panowanie i stosunki z Rusią przytrzymały czas jakiś język w formach więcej słowianskich, mieszając go często z djalektem pobratymczej, a mniej zdenaturalizowanej kulturą zachodnią Rusi. Pobyt dworu i panów w Litwie także się do tego przykłada“ (Nowe studja literackie, Варшава 1843).

І ня толькі ў галіне духовай культуры беларускі элемэнт стаяў высока. Досьледы нямецкіх вучоных Ветэра, і А. Іппэля, а так-жа маладога беларускага вучонага Шчакаціхіна кажуць аб самастойнай беларускай матэрыяльнай культуры. Праўда ці то ў архітэктуры, ці малярстве крыжаваліся стылі Рыму і Візантіі, але з часам здолеў паўстаць арыгінальны беларускі стыль у архітэктуры, асабліва ў царкоўным будаўніцтве і ў будове абаронных замкаў.

Такімі гучнымі ручаямі бурлела ў той час палітычнае і культурнае жыцьцё ў Вялікім Князьстве Літоўскім і Рускім.

Такімі гучнымі ручаямі бурлела ў той час супольнае беларускалітоўскае дзяржаўнае жыцьцё наагул, а выключна беларускае культурнае асабліва. Можна толькі быць нацыянальна гордым з тых часоў, бо сапраўды вельмі яны мілы дзяржаўнаму і культурнаму пачуцьцю беларускаму.

І толькі ў такі спосаб належыць sine ira et studio трактаваць нашую супольную з літвінамі слаўную мінуўшчыну.

# Абход сьвяткаваньня 10-ці ўгодкаў істнаваньня „USTREDNIHO SVAZU ČESKOSLOVENSKEHO STUDENTSTVA“. (ЦЭНТРАЛЬНАГА САЮЗУ ЧЭХАСЛАВАЦКАГА СТУДЭНСТВА) І ЗАСНАВАНЬНЕ ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ ЧЭХАСЛАВАЦКАГА СТУД.

На пярэдадні сьвяткаваньня 10-угодкаў істнаваньня „У. С. Ч. С.“ (Цэнтральнага Саюзу Чэхаславацкага Студэнства) у суботу 8-га лістапада г. г. у залі Старамескае ратушы ў Празе было заложана Т-ва Прыяцеляў Чэхаславацкага Студэнства пад старшынствам міністра Д-ра Крофты.

Урачыстае паседжаньне было адчынена Старшынёю „У.С.Ч.С.“ Інж. Стронерам, які паказаў на вялікае значэньне гэнае ўрачыстасьці, аб чым сьведчыць факт—ахвотнае прыняцьце пратэктарату самога Прэзыдэнта Чэхаславацкае Рэспублікі.

Сярод прысутных былі: міністар Асьветы, міністар унутраных Спраў, Рэктар Высокае Тэхнічнае Школы, Рэктар Акадэміі Мастацтва, шмат прафэсароў пражскіх выжшых школаў, некаторыя сэнатары і дэпутаты Чэхаславацкага Парляманту, дасьведчаныя прыяцелі студэнства і таксама прадстаўнікі прэсы.

Старшыня паседжаньня міністар Др. Крофта ў сваім паясьненьні патрэбы і мэты гэнага Т-ва, указывае на неабходнасьць лучнасьці паміж старэйшай і маладой гэнэрацыяй і скончыўшымі высокія школы, бо гэтую лучнасьць перарвала сусьветная вайна; падтрымаць інтарэсы маладое гэнэрацыі, развой яе духовы і маральны, стварэньне спрыяючага матэрыяльнага палажэньня і ўвайсьці ў паразуменьне з ёю. Такім чынам гэнае Т-ва будзе зьяўляцца нібы мастом паміж старшым і малодшым пакаленьнямі і прыгатуе да дзяржаўнага сужыцьця, азнаямляючы яго добра з патрэбамі свайго народу. Адно, што мусіць памятаваць Т-ва Прыяцеляў Чэскага Студэнства: берагчыся палітыканства, ня ўносіць туды разладу і працаваць, ня гледзючы на свае палітычныя пераконаньні, а гэтым самым маглі-бы праявіць сваё нацыянальнае пачуцьцё і любоў да Бацькаўшчыны — падаць адзін другому руку і быць прыяцелямі свайго студэнства. Наадварот, адзін з наступных прамоўцаў засьцярагае студэнства ад індэфэрэнтнасьці і радзіць, каб, на агульным полі працы, асобы рожных поглядаў і пераконаньняў прыйшлі да паразуменьня і тут маглі-бы абменівацца сваімі думкамі, пазнаючы пераконаньне другога, выбіраючы з гэтага праўду, бо кожны чалавек памыляецца, але гарэй ёсьць, калі застаецца і надалей сярод сваіх памылак; тут-жа трэба старацца, каб прыйшлі палюбоўным шляхом да ўзаемнага паразуменьня.

Намесьнік старшыні „У. С. Ч. С.“ рэфэруе аб той вялікай дзейнасьці Саюзу і накрэсьлівае прыблізную праграму Т-ва і ягоныя дасягненьні.

У канцы паседжаньня быў зазначаны склад камітэту па стварэньні Т-ва, пад кіраўніцтвам Д-ра Крофты, у каторы былі выбраныя пераважна асобы сярод прафэсуры, грамадзкіх і дзяржаўных працаўнікоў. Далей праяўляюцца пажаданьні пасьпеху ў працы Т-ва і поў-

ная гатоўнасьць супрацоўніцтва, што заручае ад імя скончыўшых выжшыя школы, першы старшыня „УСЧС“; а ад імя прыматара места Прагі — поўная гатоўнасьць заўсёды ісьці на сустрэч студэнству.

Па заканчэньні гэтага дня, для вучасьнікаў Сьвяткаваньня было дадзена прадстаўленьне ў „Ставовскім Дзівадле“ (тэатры) — драма Мэдэка — „Палкоўнік Швэц“.

На другі дзень раніцаю адбылося агульнае паседжаньне „УСЧС“, якое было лічнейшае, чым вышэй успамянутае. Пасьля адчыненьня Зьезду былі зробленыя даклады і рэфэраты аб дзейнасьці Саюзу, які 10 гадоў таму назад, пасьля сусьветнае вайны і грагалошаньня незалежнасьці „ЧСР“ (Чэхаславацкае Рэспублікі), зьяўляецца моцнаю арганізацыяю, якая сяньня, за такі кароткі час, шмат зрабіла для свайго Студэнства і Народу; зблізіла ня толькі Чэхаў і Славакаў, а нават Карпатарускіх студэнтаў, займае досыць пэўнае становішча як у краі, так і на міжнародавым грунце.

Пасьля адбыўшайся афіцыяльнае часткі урачыстасьці, наступілі прывітаньні рожных навукова-грамадзка-дзяржаўных прадстаўнікоў і дэлегатаў нацыянальных студэнскіх арганізацыяў. Паседжаньне закончылася сьпевам дзяржаўнага гымну.

На гэтым Сьвяткаваньні былі таксама прысутныя прадстаўнікі „АБСА“, якія праявілі свае шчырыя пажаданьні Студэнству братняга Народу.

На гэтым месцы немагчыма прайсьці моўчкі, не зазначыўшы, што стварэньня такога Т-ва ў нашым беларускім студэнскім жыцьці ня толькі ёсьць пажаданае, але нават неабходнае, бо пры нашым становішчы, ня маючы ў сучасны мамэнт ня толькі высокіх школаў, дзяржавы, будучы падзеленыя і раскіданыя па чужым краінам, магло-бы роднае грамадзянства хаця троху памагчы свайму студэнству, уваходзячы з ім у цесны кантакт, стварыўшы тэтакае Прыяцельскае Т-ва, але на вялікі сум, бачымо мы, што нашае старшае грамадзянства ня ёсьць скансалідавана, каб магло прадстаўляць моцную адзінку — ёсьць разбітае, па тым ці іншым прычынам, на рожныя партыі і сумна, калі вельмі часта гэтыя прычыны ёсьць асабістыя рахункі ці падтасаваньне свае грамадзкае працы да рамак свайго асабістага дабрабыту, ня памятуючы, што мы мусімо перш-наперш глядзець на нашыя грамадзкія абавязкі, ад чаго залежыць нашая індывідуальнасьць.

І вось на адзіным полі за адзінаю працаю, помаччу свайму студэнству, можна прыйсьці да шляхотнага паразуменьня, маючы на думцы толькі дасягненьне Незалежнасьці, Дабрабыту Нашае Бацькаўшчыны і Нашага Народу!

**А — сь.**

Прага, 13-га лістапада 1930 году.

---

* * *

Ці памятаеш Ты...
Вясьнянай раніцы
Ружовы небасхіл,
Які з блакітамі зьліваўся нейк ня сьмела —
І музыкі тады
Апошнія дзесь плакалі акорды,
Здаецца вальс тады ігралі...
Мы выйшлі ціха на паветра,
На камянёх абросшых мохам селі,
Паветра цьветам яблыняў сьвятлела
І ледзь даходзячы да нас
Акорды ціха паміралі.
Нас цішыня паволі агартала,
Зьяўлялася задума...
Свой стройны стан прад намі
Пахіляў
Зялёна-ясны клён,
Над намі мур стары
Стаяў на стражы,
Вясна тады яшчэ была...
Зялёнай плыньню дрэвы шапацелі,
Цудоўна пахнуў бэз,
А неба залацілі праменьні першыя
Ўзыходзячага сонца,
Лёгкія, як сон,
Зьвіваліся чаргою хмаркі.
Вясна тады была...
Я пэрлы Тваіх рук
Размроены бязконца цалаваў
І быў шчасьлівы
Ўсьмешкаю Тваіх
Пурпуравых, раскошных вуснаў,
Блескам Тваіх вочаў...
Шасьцеў штось ціха клён,
На небе золата ігралі пералівы
І бэзу палкі віўся пах
І шыбка так ішлі хвіліны.
Была тады вясна..
Ці памятаеш гэта Ты...
Бо я люблю ўспаміны.

Вільня, 10.XI.30 г. **Аўгень Б.**



Група сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні. Фот. М. Гросман.

## НЯ КУКУЙ ЗЯЗЮЛЯ...

Ня кукуй зязюля,
Лепш ты ня кукуй;
Колькі буду жыці
Ты не пракукуй.

Хай ня буду ведаць,
Які маю лёс,
Мо‘ ня буду сумны,
Не пазнаю сьлёз.

Ня кукуй зязюля,
Лепш ты ня кукуй;
Жыцьця маладога
Майго пашкадуй.

**Б. Кляпацкі.**

* * *

Ноч прышла туманная,
Ня чутно ўжо гулу...
Казкаю вясьнянаю
Беларусь заснула...
Зоркі ткуць ёй хараша
Узоры чароўныя,
Ходзіць месяц сторажам
Над ёю, князёўнаю.
Скачуць і сьпяваюць
Русалкі прыгожыя...
Дрэмле ля ручая
Лясун заварожаны...
Серабрацъ між соснамі
Просьветы цудоўныя...
Сьпіць у царсьтве сосьненым
Беларусь працоўная.

1930 г. **Хв. Ільляшэвіч**



# АДОЗВА

## Аб'еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў.

ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ.

Штодзенны рост унутраньня-арганізацыйнае і прапагандна-інфармацыйнае працы павялічывае і так ужо непасільны цяжар арганізаванага жыцьця Беларускага Студэнства. Перш, сяброўскія складкі і выпадковыя дапамогі баларускіх культурна-палітычных устаноў заспакоівалі скромныя фінансавыя патрэбы нашага Аб'еднаньня; цяпер-жа, дзякуючы злучнасьці нашага Аб'еднаньня з студэнствам усяго сьвету, мінімальная прапагандна-інфарамцыйная праца, нават у постаці міжарганізацыйнае карэспандэнцыі, вымагае вялікшых сродкаў. А калі-ж да гэтага яшчэ дадамо вялікія выдаткі, зьвязаныя з пасыланьнем дэлегацыі Беларускага Студэнства на міжнародавыя студэнскія кангрэсы, то абраз нашага арганізацыйнага жыцьця будзе поўным і вельмі цяжкім.

Прэзыдыум Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў, каб не дапусьціць да загнібеньня працы Беларускага Студэнства на міжнародавым грунце, выбраў, дзеля падмогі свае цяжкае працы, той шлях, па якім ідзе студэнства ўсіх падняволеных народаў: зварот з просьбаю да роднага грамадзянства.

Вельмі Паважаныя Грамадзяне, не адкажэцеся, паводле Вашае магчымасьці, памагчы ў працы Беларускаму Студэнству, якое ў сучаснай хвіліне зьяўляецца адзіным беларускім чыннікам на міжнародавым грунце. Кожная Вашая ахвяра, хай сабе некалькі грошаў, будзе вялікаю падмогаю ў нашай цяжкой працы. Калі Вы зможаце прыслаці адрасы тых Вашых прыяцеляў і знаёмых, якія змаглі-бы так-жа памагчы працы Беларускага Студэнства, — будземо Вам шчыра ўдзячны.

Ахвяры просімо прысылаць на наступны адрас: Ing. Lev Hirys, Trèsorier d' „ABSA" Praha II, Wenzigowá 4, Tchécoslovaquie або: Ст. Станкевіч — эканамічны рэфэрэнт „АБСА", Вільня, Віленская вул. 8—3.

*З глыбокаю пашанаю*

*ПРЭЗЫДЫУМ „А.Б.С.А."*

*(—) Дф. Тамаш Грыб.*
Віцэ-старшыня.

*(—) Інж. Е. Лявон Гірыс.*
Сэкрэтар.

*(—) Кан. Ф. Станіслаў Станкевіч.*
Эканамічны рэфэрэнт.



# ХРОНІКА

## АБ'ЕДНАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ „АБСА“

Арганізацыйныя справы. Дзеля таго, што старшыня „АБСА“ к. Вячэслаў Лаўскі кончыўшы высокую школу выехаў з Прагі на Бацькаўшчыну, заступае яго Віцэ-Старшыня „АБСА“, др. Тамаш Грыб.

З Міжнароднага Аддзелу „АБСА“. Міжнародны Аддзел „АБСА“ у Празе пад кіраўніцтвам А. Вітушкі праз увесь час вёў інтэнсыўную працу ў кірунку міжнароднае рэпрэзэнтацыі беларускага студэнства, увенчанаю, побач з іншымі мамэнтамі, чынным удзелам беларускага студэнства на XII зьезьдзе „C.I.E.“ ў Бруксэлі.

З Эканамічнага Аддзелу АБСА“. Эканамічны Аддзел „АБСА“ пад кіраўніцтвам Ст. Станкевіча ў Вільні ўвесь час вёў інтэнсыўную працу ў кірунку здабываньня адпаведных фондаў на дзейнасьць „АБСА“. У гэтым кірунку яшчэ ў студзені б. г. прышлося абвесьціць у прэсе і разаслаць сярод грамадзянства адозву Аддзелу з просьбаю матэр'яльнае помачы, залучаючы спэцыяльныя дэклерацыі для ахвярадаўцаў. Нажаль, вельмі малы процант нашага грамадзянства адгукнуўся на гэтую просьбу, вялікая большасьць, паміма сваей магчымасьці прыйсьці з помаччу, зусім зігнаравала гэтую справу. Апрача гэтага паасобныя студэнскія арганізацыі, уходзячыя ў склад „АБСА“, ня рупяцца з аплатаю сяброўскіх складак.

Помач Бел. Студ. Саюзу ў Вільні, у постаці 10-ці працэнтовае адлічкі з сваіх чыстых даходаў, з прычыны невялікага за апошні год грашовага абароту, дала вельмі нязначны даход. Паміма аднак гэтага пры шчырай і ахвярнай помачы некаторых асоб з беларускага грамадзянства усёж такі ўдалося выслаць двух дэлегатаў на сёлетні зьезд „C.I.E.“

Прэсавы Аддзел „АБСА“. Прэсавы Аддзел „АБСА“ ў Вільні пад кіраўніцтвам А. Бартуля ня меў магчымасьці належна працаваць з прычыны браку матэр'яльных сродкаў. Усю дзейнасьць прышлося агранічыць да выданьня некулькіх адозваў, з якіх адна „Пратэст беларускага студэнства проці перасьледаваньня беларускага руху праз акупацыйныя ўлады“, вынесены на V зьезьдзе „АБСА“ была сканфіскавана. Брак матэр'яльных сродкаў унемажлівіў так-жа выданьне пропоганднае літэратуры да зьезду „CIE“.

Згодна з дырэктывамі V-га зьезду „АБСА“ былі ведзены стараньні, каб „Студэнская Думка“ выходзіла як орган „АБСА“. Прымаючы пад увагу фармальныя немагчымасьці „Студэнская Думка“ засталася і надалей органам беларускага студэнства наагул, зьяўляючыся такім чынам неафіцыяльным органам „АБСА“.

З Спартовага Аддзелу „АБСА“. Спартовы Аддзел „АБСА“ ў Вільні пад кіраўніцтвам к. М. Шкялёнка да апошняга часу з прычыны трудных варункаў, амаль зусім не праяўляў сваей дзейнасьці ў галіне спартовай. Цяпер-жа пастаноўлена распачаць спартовую дзейнасьць сярод

беларускага студэнства, запрасіўшы дзеля вядзеньня яе паручніка Ўл. Казлоўскага.

Зварот да грамадзянства. У зьвязку з цяжкім матэр‘яльным станам беларускага студэнства, што адбіваецца вельмі ад‘емна на яго працы, „АБСА“ зьвярнулася з гэтаю мэтаю да некаторых адзінак з беларускага грамадзянства з просьбаю матэр‘яльнае помачы.

VI-ты зьезд „АБСА“. Дня 29 і 30 сьнежня г. г. адбудзецца ў Празе Чэскай VI-ты гадавы зьезд „Аб‘еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“ (АБСА), на якім апрача справаздачы Ураду і падлягаючых яму органаў, намечаньня пляну працы на наступны год ды іншых зьвязаных з студэнскім жыцьцём справаў, адбудуцца так-жа перавыбары ўраду. На гэты зьезд пашле сваю дэлегацыю і Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні.

## БЕЛАРУСКІ СТУДЭНСКІ САЮЗ У ВІЛЬНІ.

Справы Арганізацыйныя. На мейсца выступіўшых у апошнім часе з Ураду Б. С. С. к.к. М. Зянюковай і А. Бартуля, уваходзяць іх заступнікі к. к. С. Сарока і С. Жураўлёў. Такім спосабам склад Ураду Б. С. С. зьяўляецца наступны: старшыня-К. Глінскі, віцэ-старшыня — Ст. Станкевіч, сэкрэтар—С. Сарока, скарбнік—З. Каўшанка і вольны сябра—С. Жураўлёў.

Сьвяткаваньне 10 угодкаў заснаваньня Бел. Студэн. Саюзу ў Вільні. Дня 23.XI.30 г. ладзіцца ўрачыстае сьвяткаваньне 10-ых угодкаў заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні. Праграма Сьвяткаваньня наступная: 1. Урачыстая Акадэмія ў салі Сьнядэцкіх У.С.Б. падчас якой будуць адчытаны рэфараты: к. Ст. Станкевіча — „Гісторыя беларускага студэнскага руху“ і к. А. Бартуля—„Беларускі Студэнскі Саюз за 10 год свайго істнаваньня“. 2. Канцэрт-Баль пад пратэктаратам Я. М. Рэктара У.С.Б. Янушкевіча ў салі „Apollo“, на праграму каторага складаецца студэнскі хор пад кіраўніцтвам вядомага композытара Валынчыка, і струнны аркестр Бел. Студ. Саюзу пад яго-ж кіраўніцтвам. Апрача гэтага будуць зарганізованы беларускія нацыянальныя скокі на сцэне, мэлёдэклемацыі, солё і іншыя выступленьні. Падчас акадэміі будзе наладжана выстаўка беларускай студэнскай прэсы. Гэтаму вялікаму для нас юбілею пасьвячаецца і гэты нумар „Студэнскае Думкі.“

Прыплыў новых сяброў. З пачаткам бягучага акадэміцкага году ў Б. С. С. паступіла многа новых сяброў, пераважна матурыстаў Беларускіх Гімназіяў. Значыцца паміма непамерна трудных варункаў для беларускага жыцьця ў граніцах Заходняе Беларусі, гдзе на тры амаль мільёны беларускага народу ледзьве існуюць толькі тры беларускія сярэднія школы, лік нашай студэнскай моладзі ўсё-ж такі павялічаецца.

З дзейнасьці Рэфэратнае Сэкцыі. Рэфэраты ў БСС. ня ў прыклад папярэднім гадом, калі гэтая галіна дзейнасьці заўсёды так пышна разьвівалася, сёлета не адбываюцца амаль зу-

сім. Праўда 12 кастрычніка была зладжана інфармацыйная зборка для новапаступаючых з рэфэратам к. Ст. Станкевіча на тэму: „Беларуская сучаснасьць і студэнства“, але апрача гэтага не адбылося нічога. Трэба спадзявацца, што і ў гэтым кірунку будзе вясьціся належная праца, а гэта ў зьвязку з зьменаю кіраўніцтва сэкцыі. Бо ў апошнім часе дасюлешні кіраўнік рэфэратнае сэкцыі к. А. Бартуль зрокся кіраўніцтва, а на мейсца яго пакліканы к. М. Маскалік. Пажадана было-б, каб рэфэратная сэкцыя наладзіла сталыя сыстэматычныя зборкі для сяброў Саюзу і запрошаных гасьцей, апрача звычайных рэфэратаў адбыліся-б дыскусыі на розныя актуальныя тэмы, вырашаліся-б супольна ўсялякія студэнскія пытаньні і г. д. Гэта бязумоўна зблізіла-б паміж сабой студэнства і давала-б магчымасьць кожнаму дзяліцца сваімі думкамі, поглядамі адносна многіх пытаньняў. Варта было-б, каб рэфэратная сэкцыя ў запраўды падумала аб зарганізаваньні такіх сыстэматычных зборак і праявіла ў гэтым кірунку адпаведныя захады. Чакаем!

Сэкцыя Музыкальна-Драматычная. Музыкальна-Драматычная Сэкцыя БСС. пад кіраўніцтвам к. С. Сарокі з пачаткам бягучага году (5.X.30) зладзіла Спэктакль-Вечарыну, на якой адыграны быў сцэнічны абразок „У Зімовы Вечар“ Э. Ажэшковай. Сэкцыя праектуе выканаць у гэтым годзе рад паважных і нябачаных у Вільні яшчэ пастановак, як „Раскіданае Гняздо“ Я. Купалы, „Дзьве Душы“ інсцэнізацыя пад гэтым-жа загалоўкам повесьці М. Гарцкага і іншыя.

Студэнская самапомач. Беларускі Студэнскі Саюз з атрымліванае сталае запамогі ад Беларускага Дабрадзейнага Т-ва выдае сваім незаможным сябром што месяц кароткатэрміновыя пазыкі і стыпэндыі. Нажаль, атрымліваныя запамогі так малыя, што няма магчымасьці заспакоіць мінімум патрэбаў нашых сяброў. Дакуль-жа іншыя кругі беларускага грамадзянства будуць ігнараваць справы беларускага студэнства і ня прыдуць з помаччу для яго істотных патрэбаў?

Рэдакцыйная Калегія „Студэнскае Думкі“. Пачынаючы з бягучага году пастаноўлена выдаваць „Студэнскую Думку“ рэгулярна што месяц і прытарнаваць яе да часапісаў заграднічнага студэнства. У зьвязку з тым, што „Студэнская Думка“ зьяўляецца органам беларускага студэнства наагул і афіцыяльным органам „АБСА“, кароткі зьмест важнейшых і актуальных артыкулаў будзець падавацца ў чужых мовах (у нямецкай, ангельскай і францускай па чарзе). Апошні-ж нумар веснавы будзе выходзіць выключна ў чужых мовах, як прапагандны да зьездаў „С. І. Е.“

У бягучым унівэрсытэцкім годзе выйшаў № 2(13) „Студ. Думкі“ ў павялічаным разьмеры за кастрычнік. Гэты-ж нумар з прычыны набліжаючыхся калядніх фэрыяў выходзе ў падвойным разьмеры за лістапад і сьнежань. Наступны нумар выйдзе ў студзені 1931 г. Стараньнем рэдакцыі зроблены камплекты ўсіх папярэдніх нумароў „Студ. Дум-

кі,“ якія абыймаюць аж 13 нумароў.

Студэнская сталоўка „Беларуская Сытніца“. З пачаткам бягучага году зарганізавалася студэнская сталоўка „Беларуская Сытніца“ на асновах коопэратыўных, прыняты і падпісаны Статут, каторы зложаны ўжо ў Віленскім Акружным Судзе дзеля зацьверджаньня, цяпер вядзецца акцыя зьбіраньня паёў сярод студэнства, як і старэйшага грамадзянства (пай выносіць 20 зал. на жаданьне платных у працягу 1 году ў чатырох ратах па 5 зал).

Факт арганізацыі ўласнае сталоўкі застаецца толькі прывітаць з пажаданьнем, каб нашае студэнства і грамадзянства нагул уяўляючы вялікую вартасьць уласнае сталоўкі прычынілася да яе якнайхутчэйшага адчыненьня шляхам пастпаньня ў пайшчыкі.

Коопэратыўныя курсы праз корэспандэнцыю. Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні арганізуе коопэратыўныя курсы праз корэспандэнцыю, якія будуць трываць каля 10 месяцаў і абоймуць усе аснаўныя галіны коопэратыўнае веды разам з беларускай мовай. Увесь апошні час быў пасьвячаны справам арганізацыі курсаў, запрашэньнем лектараў ды прыйманьнем кандыдатаў, якіх ужо ёсьць каля 150 асоб. Лекцыі распачнуцца ў пачатку сьнежня. Фармальнае кіраўніцтва курсамі даручана к. к. М. Тулейку і Ст. Станкевічу. Прыймо кандыдатаў будзе адбывацца і ў далейшым часе.

Урадаваньне ў Б.С.С. Урадаваньне ў Сэкрэтар'яце Б.С.С (пры Віленскай вул. 8—3) адбываецца што дня ад 5 да 7 гадз. вечара.

10-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Восеньню бягучага году прыпадаюць 10-ыя ўгодкі слаўнага Слуцкага Паўстаньня, аднаго з паважнейшых фрагмэнтаў аружнае барацьбы беларускага народу за здабыцьцё сваей дзяржаўнай незалежнасьці. Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ўзяў на сябе ініцыятыву адзначыць гэты сьветлы факт у гісторыі нашага адраджэньня ўрачыстым сьвяткаваньнем. Сьвяткаваньне вызначана на 8 сьнежня г. г. Падчас сьвяткаваньня адбудзецца ўрачыстая акадэмія з рэфэратамі гр. інж. С. Бусела, чыннага ўчасьніка паўстаньня, „Аб Слуцкім Паўстаньні“ і кал. Ст. Станкевіча на тэму: „Слуцкае Паўстаньне на фоне барацьбы за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі“. Праграму Акадэміі дапоўняць хор і аркестр. Апрача гэтага ў той-жа дзень адбудуцца жалобныя набажэнствы ў царкве і касьцеле за згінуўшых у Паўстаньні.

Да прыняцьця ўдзелу ў сьвяткаваньні будуць запрошаныя некаторыя кіраўнікі і ўчасьнікі Паўстаньня. Пажадана, каб гэтае вялікае для нас Сьвята было як найбольш урачыста адсьвяткавана, а гэта шляхам удзелу якнайшырэйшых кругоў грамадзянства.

Струнны Аркестр Б.С.С. Апошнім часам Беларускі Студэнскі Саюз зарганізаваў свой уласны струнны аркестр. Таксама пры помачы студэнтаў украінцаў зарганізаваўся даволі паважны студэнскі хор.

# МІЖНАРОДНЫЯ СТУДЭНСКІЯ ЗЬЕЗДЫ Ў 1930 ГОДЗЕ.

XII Кангрэс „С. I. Е.“ у Бруксэлі. У часе ад 12 да 26 жніўня г. г. адбыўся ў Бруксэлі XII гадавы Кангрэс „С.I.Е“ (Міжнароднай Студэнскай Канфэдэрацыі), на якім прымалі ўдзел прадстаўнікі студэнскае моладзі 35 розных народаў з усіх часьцей сьвету. Ад беларускага студэнства („АБСА“) была таксама выслана дэлегацыя ў складзе к.к. А. Вітушкі і Д. Касмовіча, якія прымалі чынны ўдзел у зьезьдзе, інфармуючы маладых прадстаўнікоў усяго сьвету аб жыцьці і палажэньні беларускага студэнства і народу беларускага наагул. З прыемнасьцю мусіма зазначыць, што побач з студэнствам некаторых іншых народаў, асаблівае супрацоўніцтва падчас міжнародных выступленьняў знаходзяць беларускія студэнты з боку студэнства ўкраінскага. Наступны XIII зьезд „СIЕ“ адбудзецца ў жніўні 1931 г. у Букарэшце (Румынія). Падробныя інфармацыі аб Зьезьдзе нашыя чытачы знойдуць у спэцыяльным артыкуле ў гэтым нумары часопісі.

Міжнародны Студэнскі Зьезд Праўнікаў. У днях 16—21 жніўня б. г. адбыўся першы міжнародны студэнскі зьезд праўнікаў у Бруксэлі, раўначасна з зьездам „С.I.Е.“ Беларускае студэнства на гэтым зьезьдзе ўзяць удзелу пакуль што не магло.

Міжнародная Студэнская Канфэрэнцыя ў Варшаве. У часе між 14 і 19 ліпеня б. г, адбывалася міжнародная студэнская Канфэрэнцыя ў Варшаве, якая займалася справай студэнскае самапомачы, перадусім арганізацыяй студэнскіх дамоў.

На Канфэрэнцыю было запрошана і „Аб'еднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“, Урад якога справу гэту даручыў Беларускаму Студэнскаму Саюзу ў Вільні, перасылаючы адначасна ўсе інструкцыі ў справе Канфэрэнцыі. Аднак лісты перасыланыя ў гэтай справе з „АБСА“ да Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, не дайшлі, а калі гэтая справа выясьнілася, то ўжо было позна, каб узяць удзел у Канфэрэнцыі. Такім чынам на вышуспомненай Канфэрэнцыі беларускае студэнства, паміма свае волі, удзелу не ўзяло.

Наагул варта зазначыць, што многія лісты, прысыланыя да Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, не даходзяць, а адзін з іх быў нават апублікаваны ў польскай газэце „Dziennik Wileński“ (№ 189 19.VIII.30), гдзе ў спэцыяльна прысьвечаным артыкуле з поваду нявіннага студэнскага лісту закідаліся беларускаму студэнству і розныя палітычныя каншахты, і здрада і т. д.

IV Міжнародная Студэнская Олімпіяда ў Дармштадзе. Стараньнем Спартовае Сэкцыі „СIЕ“ у часе ад 1 да 10 жніўня б. г. адбылася ў Дармштадзе (Нямеччына) IV-я Міжнародная Студэнская Олімпіяда, у якой узяло ўдзел студэнства многіх народаў. Да ўдзелу ў гэтай сьвятовай спартовай імпрэзе было запрошана так-жа і беларускае студэнства, якое аднак з прычыны цяжкога матэр'яльнага палажэньня, ад удзелу адмовілася, паведамляючы аб гэтым Кіраўніцтва Арганізацыйнае Ка-

місіі Олімпіяды. У адказ на гэтае паведамленьне мы атрымалі адтуль ліст з шчырымі славамі спачуваньня над нашым трудным палажэньнем і з пажаданьнем, каб у недалёкай будучыні беларускае студэнства пры новых варунках магло разьвівацца ў усіх галінах жыцьця.

Зьезд Міжнароднай Студэнскай Помачы. У часе ад 23 да 31 ліпеня б. г. адбыўся IX Зьезд Міжнароднай Студэнскай Помачы (International Student Service) у Оксфордзе (Англія), на якім узялі ўдзел студэнскія прадстаўнікі многіх народаў усяго сьвету. Беларускае студэнства да апошняга часу ня мела магчымасьці пастарацца аб наладжаньні сталага кантакту з гэтай вельмі паважнай міжнароднай студэнскай арганізацыяй, хаця былі паасобныя сутычнасьці з яе прадстаўнікамі, як напр. у прошлым годзе з сэкрэтаром гэтае арганізацыі к. І. Паркэсам была адбыта паважная канфэрэнцыя ў Вільні.

Кангрэс Унівэрсытэцкай Фэдэрацыі для Лігі Народаў („FUI"). У бягучым годзе адбыўся Кангрэс Унівэрсытэцкай Фэдэрацыі для Лігі Народаў у Жэнэве ад 1 да 5 верасьня. Сябрамі гэтай міжнароднай студэнскай арганізацыі, якая вядзе супрацоўніцтва з Лігай Народаў, і разьвіваецца пад яе протэкторатам, могуць быць унівэрсытэцкія таварыствы толькі тых народаў, якія маюць сваю дзяржаву. Паміма аднак гэтага статутовага прынцыпу на ўспомненым кангрэсе прызнана ўсе правы запраўдных сяброў Украінскаму Унівэрсытэцкаму Таварыству, за выняткам права пастанаўляючага голасу на пленарных паседжаньнях. Калі-ж урэшце Беларусы будуць мець магчымасьць прыступіць да гэтае міжнароднае інстытуцыі?

## ІНШЫЯ СТУДЭНСКІЯ СПРАВЫ.

З жыцьця беларускага студэнства ў Варшаве. Справа з арганізацыяй беларускага студэнства ў Варшаве стаіць на добрай дарозе, бо, як даведываемся Статут арганізацыі Міністэрства ўжо зацьвердзіла і пераслала ў высокія школы. З іх далі сваю згоду на існаваньне беларускай студэнскай арганізацыі Вышэйшая Школа Вясковае Гаспадаркі і Вышэйшая Школа Гандлёвая. Няма пакуль што толькі адказу ад Унівэрсытэту і Політэхнікі.

Для вядзеньня стараньняў аб легалізацыі бел. студэнскага гуртка вызначаны тымчасовы ўрад, які і вядзе гэтую працу. Вельмі прыемным ёсьць тое зьявішча, што Варшаўскае студэнства ўвайшло адразу ў блізкія зносіны з Бел. Студ. Саюзам у Вільні, які між іншым, узяў на сябе справу памагчы пры зарганізаваньні бібліятэкі пры Беларускім Студэнскім Варшаўскім Гуртку. Найвялікшай перашкодай у працы ёсьць нашая матэр'яльная беднасьць, але пры пэўных высілках мо' і гэта ўдасца перамагчы. Мы з свайго боку вітаем нашых варшаўскіх калегаў з зарганізаваньнем свае ўласнае студэнскае арганізацыі.

Апрача гэтага ёсьць многа бе-

ларускіх студэнтаў на Факультэце Праваслаўнае Тэолёгіі пры Варшаўскім Унівэрсытэце, якія нажаль, дзякуючы спэцыяльнаму рэгуляміну, ня могуць браць удзелу ў агульнай арганізацыйнай працы. Сярод студэнтаў Тэолёгіі існуе ўжо пяты год „Саюз Тэолёгаў Праваслаўных Студэнтаў Варшаўскага Унівэрсытэту“, які выдае сваю часопісь „Путь Правды“ у мовах: беларускай, расейскай, украінскай і польскай.

Беларуская Студэнская арганізацыя ў Бэльгіі. Дзякуючы стараньнем дэлегацыі беларускага студэнства на зьезьдзе „С.І.Е.“ у Бруксэлі, якая саткнулася там з беларускімі студэнтамі студ'юючымі на высокіх бэльгійскіх школах, паўстаў Беларускі Студэнскі Гурток у Бэльгіі. Паўстаньне беларускае студэнскае арганізацыі ў Бэльгіі ёсьць апошнім найвялікшым здабыткам у беларускім студэнскім жыцьці, які сьведчыць аб тым, што паміма нявымоўна цяжкіх варункаў нашага жыцьця, усё-ж такі лік беларускага студэнства з кожным годам павялічваецца.

Беларускія студэнты ў Латвіі. Паміма таго, што беларуская грамадзкая праца ў межах Латвійскае Рэспублікі дзякуючы справядлівым адносінам Латвійскага Ураду да нацыянальных меншасьцяў, стаіць вельмі добра, да апошняга аднак часу ня мелі мы ў Латвійскім Унівэрсытэце ў Рызе амаль зусім сваіх студэнтаў. Прычынаю гэтага былі вельмі трудныя варункі пры паступленьні на Латышскія высокія школы, дзе заўсёды вымагаюцца конкурсовыя эгзамены з латышскае мовы, дзеля чаго абітур'енты беларускіх гімназіяў у Латвіі былі змушаны па здабыцьцё вышэйшае асьветы выяжджаць у Вільню ці ў Прагу, або пасьвячацца кар'еры пэдагогічнай.

Апошнім часам даведываемся, што і на Рыжскім Унівэрсытэце ёсьць значны лік беларускага студэнства, якое аднак яшчэ не зарганізаванае.

Прыплыў беларускіх студэнтаў у Празе. З пачаткам сёлетняга ўнівэрсытэцкага году з Захадняй Беларусі выехала некулькі беларускіх студэнтаў на высокія школы Чэхаславаччыны. З прыемнасьцю трэба зазначыць, што беларуская студэнская калёнія ў Празе Чэскай памалу папаўняецца новымі сіламі.

Беларусы на Дзяржаўных Вучыцельскіх Курсах. На Дзяржаўных Вучыцельскіх Курсах, якія сёлета адкрыліся ў Вільні, ёсьць многа і беларускай моладзі, пераважна абітур'ентаў Няваградзкай і Віленскай Беларускіх Гімназіяў.

Скончылі вышэйшыя школы. Вясною бягучага году скончылі Віленскі Унівэрсытэт сябры Б.С.С. к. к. Мікалай Шкялёнак і Эдвард Крэчка, абодвы з тытулам магістраў права і Максім Амельяновіч з тытулам доктара мэдыцыны. Адначасна кончыў Вышэйшую Школу і вярнуўся ў Заходнюю Беларусь інжынер Вячэслаў Лаўскі, цяперашні старшыня „АБСА“.

Такзваная Беларуская Дзяржаўная Вучыцельская Сэмінарыя імя Фр. Багушэвіча ў Вільні. У зьвязку з вялікімі высілкамі беларускага грамадзянства на прызнаныя Соймам субвэнцыі ў ліку 100.000 зал. на беларускую вы-

чыцельскую сэмінарыю Урад з пачаткам сёлетняга школьнага году адчыніў у Вільні Дзяржаўную Вучыцельскую Сэмінарыю імя Фр. Багушэвіча. Аднак з мамэнтам яе адчыненьня аказалася, што ёсьць яна беларускай толькі на паперы, бо палавіна важнейшых прадметаў, маючых узгадаваўчую вартасьць выкладалася ў польскай мове, не выключаючы нават узгадаваньня вучняў, якое было аддадзена ў рукі ўзгадаваўцаў Палякоў.

У зьвязку з гэтым беларускае грамадзянства абвесьціла байкот гэтай „беларускай“ сэмінарыі, а вучыцялі Беларусы адмовіліся ў ей выкладаць.

Такім чынам у сэмінарыі выкладаюць сяньня вучыцялі палякі, не выключаючы нават вучыцеля беларускае мовы.

Гэты факт аканчальна нас пераконывае, як няшчырымі зьяўляюцца частыя галасы некаторых кругоў польскага грамадзянства, якія на славах і на паперы „стараюцца“ заспакоіваць беларускія культурныя патрэбы.

Але гэта для нас лепш, прынамсі менш будзе ілюзіяў, а больш веры ў уласныя сілы. У зьвязку з гэтым сярод беларускага грамадзянства ўзнаўляецца колішняя думка аб адчыненьні Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі ў Нямеччыне.

Новая кніга. Апошнім часам вышла з друку ў Празе Чэскай новая кніга пад загалоўкам: „Belaruś a Belarusove“ („Беларусь і Беларусы“) у чэскай мове. Аўтар гэтае кнігі Др. Мікола Ільяшэвіч дужа цікава і ўсебакова інфармуе чэскае грамадзянства аб беларускім адраджэнскім руху. У тэксьце ёсьць многа ілюстрацыяў і карта этнаграфічнае Беларусі. Аб патрэбе і значэньні такога выданьня ў чэскай мове гаварыць ня прыходзіцца, гэта відавочна само сабою.

Украінцы аб Беларусах. У Львове пачала друкавацца і выходзіць часткамі Украінская Энцыклёпэдыя. У трэцім выпуску зьмешчаны вялікі артыкул (з картай) аб Беларусі, дзе падрабязна і ўсебакова асьветлена беларускае пытаньне. Да супрацоўніцтва ў далейшых выпусках запрошана так жа цэлы рад Беларусаў з Заходняе Беларусі.

Важнейшыя сёлетнія юбілеі. Апрача належна адсьвяткаваных прыпадаючых на гэты год важнейшых беларускіх юбілеяў, як 10-ыя ўгодкі сьмерці піонэра беларускага адраджэньня Івана Луцкевіча, 400-лецьце Літоўскага Статуту, 12-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, 25-лецьце літэратурнае творчасьці Янкі Купалы, 500 - лецьце сьмерці Вялікага Князя Вітаўта, 5-ыя ўгодкі „АБСА“ ды 10 лецьце заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, прыпадаюць яшчэ на бягучы год наступныя ня менш важныя юбілеі: 10-лецьце Слуцкага Паўстаньня, 30-ці лецьце сьмерці Фр. Багушэвіча ды 10 - лецьце сьмерці Алеся Гаруна.

Было-б вельмі пажадана, каб тыя юбілеі, якія ня былі яшчэ адзначаны спэцыяльным абходам, беларускае грамадзянства пасталася адсьвяткаваць і таксама, каб на правінцыі былі зладжаны аналёгічныя сьвяткаваньні.

# Зьмест—Contents.



10 years have passed since the organisation of the Whiteruthenian Students' Union in the Capital of the Western Whiteruthenia (under Polish gov.) in Wilna. The Union has taken part in all branches of cultural work: in educational, in theatrical, in editorial, in cooperative etc.; thanks to this fact the Union is quite popular among Students as well as the older groups of society. Also in the more important events of the public life the students have never failed to take their part.

The 10-th anniversary of the organisation of the Whiteruthenian Students' Union was celebrated on the 23-rd November 1930



For two centuries the whiteruthenian peoples were held in the state of spiritual bondage. The National Movement began in the first years of the 19-th century. Among its first instigators were university students and specially the students of the university of Wilna. The revolutionary spirit which arose throughout the Russian Empire in the latter part of the 19-th century spread also into Whiteruthenia. The first legal organisation of the Whiteruthenian students was formed in Moscou in 1891. Some years later similar organisations sprang up in Petersburg, Warsau, Dorpat, Tabor and others cities. The students take also active part in the social life and in international relations. They were represented at the Congress of the Progressive Slavic Students in Prague in 1908. Aftward the plan of union for all student organisations arose. The Students' periodical entitled „Ranica" („The Morning") began te be published in Petersburg in 1914, but the Great War stopped its publication.

At the close of the Great War the National desires of the Whiteruthenians were not realized. By the treaty of Riga in 1920 Whiteruthenia was divided into four parts. The largest part hav-

ing about five million inhabitants now belongs to the Federation of Sowiet Republics, another part with four million inhabitants was given to Russia. The western part with about three millions belongs to Poland and another part having 200.000 inhabitans belongs to Latwia. In each of these parts the National movement is active and in it the students participate.

The Whiteruthenian Soviet Republic with the state university in Minsk, a university in Smolensk and an Academy of Economics in Hory-Horki and other professional schools has the largest number of students. These students cannot engage in any public work, because the communistic dictatorship is hostile to tem.

In the part of Whiteruthenia now under Latwian government there exist the best conditions for national development, thanks to the just treatment of the minorities by the Latwian government.

In Poland the conditions are the worst, for at present there is no Whiteruthenian university and there are only three middle schools (gymnasiums) for almost three millions of people. Because of this lack the Whiteruthenian students of necessity must study in the Polish universities especially in Wilna and Warsaw. Disregarding the difficult situation the Whiteruthenian students in Wilna are working efficiently and are well organized since 1920. Many Whiteruthenian immigrant students live in Prague. In 1924 there was organized in Prague the „National Union of White Ruthenian Students' Associations", that was unanimously admitted as a member of the „C.I.E." in 1926. Since then meetings of the „C.I.E." making acquaintances and contacts with other joung peoples of the World.



On the 27-th of October 1930 the Whiteruthenians together with the Lithuanians in Wilna celebrated the five hundredth anniversary of the death of the Great Count Vitold. When we consider further the epoch of Vitold and realize that he united under his government all the ethnographical Whiteruthenian lands we see that his chief interest lay in the creation of a Whiteruthenian state. When he was called to be a Czech king he refused this honor rather than leave his country and of necessity he consented to give to the Crusaders the Lithuanian part of his territory rather than the Whiteruthenian.



His chief merit lies not so much in his belligerent plans by which he made his country one of the largest and strongest in Europe, but in his idea of an independent Whiteruthenian state. Following this idea he was trying to gain for himself the title of a Whiteruthenian-Lithuanian king, but his plans were checked. Some chronicles use the therm Lithuania for Vitold's territory, but this cannot be taken litteraly, because his territory included besides Lithuanians a larger number of Whiteruthenians and also a number of Ukrainians.

The Whiteruthenian culture occupied the highest place. It was the language of the state and of the aristocracy not only in the ethnografical Whiteruthenian, but also in the Lithuanian territory. Why was all the territory of the Great Count Vitold called Lithuania? The explanation is that the dynasty of Giedymin to which Vitold also belonged come originally from Lithuanian territory although the dynasty was partly whiteruthenized already before the time of Count Vitold.



---

ПАДПІСКУ НА „СТУДЭНСКАЮ ДУМКУ" ПРЫСЛАЛІ:

N. N. 30 зл.; кс. К. Кулак 9 зл.; У. Паульскі — 2 зл.. Падпісчыкам шчырая падзяка. — Рэдакцыя.

Рэдактар-Выдавец СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ.

